# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## МАЛІТАЎНІК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ



РЫМ — 1946

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## МАЛІТАЎНІК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ



РЫМ — 1946



ІСУС ХРЫСТОС

Збавіцель сьвету

# СЛОВА ПРА МАЛІТВУ

Малітва гэта зварот душы да Бога, каб Яго прасляўляць, або прасіць, перапрашаць, або дзякаваць. Маліцца мусіць кожны чалавек, бо малітва лучыць нас з Богам, і без малітвы нельга атрымаць ласкаў Божых патрэбных да збаўленьня. Сам Хрыстос навучыў нас маліцца, кажучы: “Ойча наш...“

Але каб малітва была добраю, трэба маліцца вытрывала і гшчыра. Вось што Хрыстос гаворыць аб гэтым:

— Прасеце і будзе вам дадзена; шукайце і знойдзеце; стукайце і адчыняць вам; бо кожны хто просіць атрымлівае, і хто шукае, знайходзіць, і хто стукае батаму адчыняць. Які з вас бацька, сыну што просіць хлеба, дасьць яму камень? Ці калі просіць рыбы, дасьць яму гадзіну замест рыбы?... Дык калі вы, благія, умееце даваць добрыя дарэньні дзецям вашым, тымболей Айцец ваш нябесны дасьць Духа Сьвятога тым, што просяць у Яго. (Лук. 11. 9-14).

# ШТОДЗЕННЫЯ МАЛІТВЫ

## Пацаркоўнаславянску

Во и́мѧ Отца̀ и҆ Сы́на и҆ Свѧта́гѡ Дꙋ́ха. А҆ми́нь.

Го́споди І҆исꙋ́се Христѐ, Сы́не Бо́жїй, моли́твъ ра́ди Пречи́стыѧ Твоеѧ̀ Ма́тере и҆ всѣ́хъ свѧты́хъ, поми́лꙋй на́съ. А҆ми́нь.

Сла́ва Тебѣ̀, Бо́же на́шъ, сла́ва Тебѣ̀.

Царю̀ Небе́сный, Оу҆тѣ́шителю, Дꙋ́ше и҆́стины, и҆́же вездѣ̀ сы́й и҆ всѧ̀ и҆сполнѧ́ѧй, Сокро́вище благи́хъ и҆ жи́зни Пода́телю, прїидѝ и҆ всели́сѧ въ ны̀, и҆ ѡ҆чи́сти ны̀

# ШТОДЗЕННЫЯ МАЛІТВЫ

## Пабеларуску

У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін.

Ґоспадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, дзеля малітваў Твае Прачыстае Маці і ўсіх сьвятых зжалься над намі. Амін.

Хвала Табе, Божа наш, хвала Табе.

Цару нябесны, Пацяшыцелю, Духу праўды, усюдыпрысутны і ўсёнапаўняючы, скарбніца дабра і жыцьцядацелю, прыйдзі і гаспадаруй у нас, і ачысьці нас ад усякага благоцьця, ды збаў, дабротны, душы нашы.

ѿ всѧ́кїѧ скве́рны, и҆ спаси̑, Бл҃же, ду́ши на́шѧ.

С҃тый Бо́же, С҃тый Крѣ́пкїй, С҃тый Безсме́ртный, поми́луй на́съ. (тройчы).

Сла́ва Ѻ҆тцꙋ̀ и҆ Сы́нꙋ и҆ С҃тѡ́мꙋ Дꙋ́хꙋ. и҆ ны́нѣ и҆ при́снѡ и҆ во вѣ́ки вѣкѡ́въ. А҆ми́нь.

Прест҃а́ѧ Тро́ице, поми́луй на́съ: Го́споди, ѡ҆чи́сти грѣхи̑ на̑шѧ: Влады́ко, прости̑ беззакѡ́нїѧ на̑шѧ: С҃тый, посѣти̑ и҆ и҆сцѣли̑ не́мѡщи на́шѧ, и҆́мене Твоегѡ̀ ра́ди.

Го́споди, поми́луй (тройчы).

Сла́ва Ѻ҆тцꙋ̀ и҆ Сы́нꙋ и҆ С҃тѡ́мꙋ Дꙋ́хꙋ, и҆ ны́нѣ и҆ при́снѡ и҆ во вѣ́ки вѣкѡ́въ. А҆ми́нь.

Сьвяты Божа, Сьвяты Моцны, Сьвяты Несьмяротны зжалься над намі. (3)

Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу, і цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін.

Найсьвяцейшая Тройца, зжалься над намі: Госпадзе, ачысьці грахі нашы, Уладару, даруй бяспраўствы нашы; Сьвяты, наведай ды аздараві немач нашу дзеля Твайго імені.

Госпадзе, памілуй. (тройчы).

Слава Айцу і Сыну І Сьвятому Духу, і цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін.

Ойча наш, каторы ёсьць у небе, сьвяцісія імя Тваё, прыйдзі

Отче на́шъ, И҆́же є҆сѝ на небе-
сѣ́хъ, да свѧти́тсѧ и҆́мѧ Твоѐ:
да прі҆и҆́детъ Ца́рствіе Твоѐ: да
бꙋ́детъ во́лѧ Твоѧ̀, ꙗ҆́ко на не-
бесѝ и҆ на землѝ. Хлѣ́бъ на́ш на-
сꙋ́щный да́ждь на́м дне́сь: и҆ ѡ҆ста́-
ви на́мъ до́лги на́ша, ꙗ҆́коже и҆ мы̀
ѡ҆ставлѧ́ем должникѡ́мъ на́шымъ;
и҆ не введѝ на́съ въ и҆скꙋше́ніе, но
и҆зба́ви на́съ ѿ лꙋка́вагѡ.

Ꙗ҆́ко Твоѐ є҆́сть Ца́рство, и҆ си́ла
и҆ сла́ва, въ вѣ́ки вѣкѡ́въ. А҆ми́нъ.

Го́споди, поми́лꙋй (12 разоў).

Сла́ва Отцꙋ̀ и҆ Сы́нꙋ и҆ Свѧ-
то́мꙋ Дꙋ́хꙋ, и҆ ны́нѣ и҆ при́снѡ, и҆
въ вѣ́ки вѣкѡ́въ. А҆ми́нь.

Прі҆иди́те, поклони́мсѧ Царе́ви
на́шемꙋ Бо́гꙋ.

валадарства Тваё, будзь воля Твая, як на небе так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня. І адпусьці нам грахі нашы, як і мы адпушчаем вінаватым нашым. І ня ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога.

Твае бо ёсьць Валадарства і сіла і слава на векі вечныя. Амін.

Госпадзе, памілуй (12 р.).

Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу, і цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін.

Прыйдзеце, пакланемся Валадару нашаму Богу.

Прыйдзеце, пакланемся і пры-

Прїидѝте, поклонѝмсѧ и҆ припадє́мъ Хрⷭ҇тꙋ̀, Царе́ви на́шемꙋ Бо́гꙋ.

Прїидѝте, поклонѝмсѧ и҆ припадє́мъ Самомꙋ̀ Хрⷭ҇тꙋ̀, Царе́ви и҆ Бо́гꙋ на́шемꙋ.

Ѱало́м 50

Помѝлꙋй мѧ̀, Бо́же, по велѝцѣй мѝлости Твое́й, и҆ по мно́жествꙋ щедро́тъ Твои́хъ, ѡ҆чи́сти беззако́нїе моѐ. На́ипаче ѡ҆мы́й мѧ̀ ѿ беззако́нїѧ моегѡ̀ и҆ ѿ грѣха̀ моегѡ̀ ѡ҆чи́сти мѧ̀. Ꙗ҆́ко беззако́нїе моѐ а҆́зъ зна́ю, и҆ грѣ́хъ мо́й предо мно́ю є҆́сть вы́нꙋ. Тебѣ̀ Є҆ди́номꙋ согрѣши́хъ, и҆ лꙋка́вое пре́дъ Тобо́ю сотвори́хъ: ꙗ҆́ко да ѡ҆прав-

пыдзем Хрысту, Валадару нашаму Богу.

Прыйдзеце, пакланемся і прыпедзем да самага Хрыста, Валадара і Бога нашага.

## ПСАЛОМ 50

Зжалься нада мною, Божа, паводля вялікае міласэрнасьці Твае, і па мнагаце даброт Тваіх, ачысьці неправату маю. Зусім абмый мяне з неправаты мае, і ад граха майго ачысьці мяне. Бо неправату маю я знаю, і грэх мой усьцяж прада мною. Табе Адзінаму я зграшыў і зло прад Табою ўчыніў: бо апраўдаешся ў словах Тваіх, і пе-

ди́шися во словесѣ́хъ Твои́хъ, и̂ побѣди́ши внегда̀ сꙋди́ти ти̂. Се̂ бо въ беззако́ніяхъ зача́тъ є̂смь, и̂ въ грѣсѣ́хъ роди̂ мя̀ ма́ти моя̀. Се̂ бо и̂стинꙋ возлюби́лъ є̂си̂, безвѣ́стная и̂ та́йная премꙋ́дрости Твоея̀ ꙗ̂ви́лъ ми̂ є̂си̂. Окропи́ши мя̀ ѵссѡ́помъ и очи́щꙋся: ѡ̂мы́еши мя̀, и̂ па́че снѣ́га ᲂ̂убѣлю́ся. Слꙋ́хꙋ моемꙋ̀ даси̂ ра́дость и̂ весе́ліе: возра́дꙋются ко́сти смире́нныя. Отврати̂ лицѐ Твоѐ отъ грѣ́хъ мои́хъ, и̂ вся̀ беззако́нія моя̀ ѡ̂чи́сти. Се́рдце чи́сто сози́жди во мнѣ̀, Бо́же, и̂ дꙋ́хъ пра́въ ѡ̂бнови̂ въ ᲂ̂утро́бѣ мое́й. Не отве́ржи менѐ отъ лица̀ Твоегѡ̀, и̂ Дꙋ́ха Твоего̀ свята́гѡ не отъими̂

раможаш калі Цябе асуджаюць. Бо вось я ў неправотах зачаты і ў грахох радзіла мяне маці мая. Бо вось Ты праўду палюбіў; нязнанае і тайнае мудрасьці Твае абʼявіў мне. Акрапі мяне гізопам і ачышчуся, абмый мяне і бялейшым за сьнег стану. Дай майму слуху радасьць і весялосьць: і ўсьцешацца пакорныя косьці. Адвярні твар Твой ад грахоў маіх, і ўсе неправоты мае ачысьці. Сэрца чыстае ствары ўва мне, Божа, і дух праўды аднаві ў нутрох маіх. Не адкінь мяне ад аблічча Твайго, і Духа Твайго Сьвятога не адбяры ад мяне. Вярні мне радасьць збаў-

ѿ менѐ. Воздаждь ми радость спасенїѧ Твоегѡ̀, и Дѹхом владычным ѹтверди мѧ̀. Наѹчѹ̀ беззакѡнныѧ пѹтем Твоимъ, и нечестивїи къ Тебѣ̀ ѡбратѧтсѧ. Избави мѧ̀ ѿ кровей Боже, Боже спасенїѧ моегѡ̀, возрадѹетсѧ ѧзыкъ мой правдѣ̀ Твоей. Господи, ѹстнѣ̀ мои ѿверзеши, и ѹста̀ моѧ̀ возвѣстѧтъ хвалѹ̀ Твою̀. Ꙗко аще бы восхотѣлъ еси жертвы далъ быхъ ѹбо: всесожженїѧ не благоволиши. Жертва Богѹ дѹхъ сокрѹшенъ: сердца сокрѹшенна и смиренна Бог не ѹничижитъ. Ѹблажи, Господи, благоволенїемъ Твоимъ Сїона, и да созиждѹтсѧ стѣны Ιерѹсалимскїѧ. Тогда̀ благо-

леньня Твайго, і духам валадарным уцьвярдзі мяне. Навучу бяспутных шляхоў Тваіх, і бязбожныя да Цябе навернуцца. Выбаві мяне ад крывавых злачынаў, Божа, Божа збаўленьня майго: і ўсьцешыцца язык мой справядлівасьці Тваёй. Госпадзе, ачысьці губы мае; і вусны мае будуць апавяшчаць хвалу Тваю. Бо калі-б Ты захацеў ахвяры, я напэўна даў-бы: але з цэлапаленьня Ты рад ня будзеш. Ахвяра Богу дух пакутны: сэрца збалелае і пакорнае, Божа, ня зьніштожыш. Пашчасьліў, Госпадзе, з добрае волі Твае Сыёну каб былі збудаваныя муры Еру-

воли́ши же́ртвꙋ пра́вды, возноше́-
ніе и҆ всесожига́емаѧ: тогда̀ воз-
ложа́тъ на ѻ҆лта́рь Тво́й тельцы̀.

## СЫМБАЛЬ ВЕРЫ

Вѣ́рꙋю въ є҆ди́наго Бо́га Отца̀,
Вседержи́телѧ, Творца̀ не́бꙋ и҆ зе-
млѝ, ви́димымъ же всѣ́мъ и҆ не-
ви́димимъ. И҆ въ є҆ди́ного Го́спода
Іисꙋ́са Христа̀, Сы́на Бо́жіѧ, Є҆ди-
норо́днаго, и҆́же ѿ Отца̀ рож-
де́ннаго пре́жде всѣ́хъ вѣ́къ:
Свѣ́та ѿ Свѣ́та, Бо́га и҆́стин-
на ѿ Бо́га и҆́стинна, рожде́нна,
несотворе́нна, є҆диносꙋ́щна Отцꙋ̀,
И҆́мже вся̀ бы́ша, На́съ ра́ди че-
ловѣ́къ и҆ на́шегѡ ра́ди спасе́ніѧ
сше́дшаго съ небе́съ и҆ воплоти́в-

залімскія. Тады прымеш ахвяры праўды, дары і цэлапаленьні: тады ўзложацьь цялят на ахвярнік Табе.

## СЫМБАЛЬ ВЕРЫ

Веру ў адзінага Бога Айца, Усёдзяржыцеля, Стварыцеля неба і зямлі, і ўсяго бачанага і нябачнага. І ў адзінага Госпада Ісуса Хрыста, Сына Божага, адзінароданага, ад Айца народжанага перад усімі вякамі: Сьвятло ад Сьватла, Бога праўдзівага ад Бога праўдзівага, народжанага нястворанага, адзінасутнага з Айцом, праз якога ўсё сталася. Дзеля нас людзей,

шагосѧ ѿ Дѹ́ха Свѧ́та и҆ Марі́и Дѣ́вы, и҆ вочеловѣ́чшасѧ. Распѧ́тагѡ же за ны̀ при Понті́йстѣмъ Пила́тѣ, и҆ страда́вша, и҆ погребе́нна. И҆ воскре́сшагѡ въ тре́тій де́нь по писа́ніємъ. И҆ возше́дшагѡ на небеса̀, и҆ сѣдѧ́ща ѡ҆деснѹ́ю Ѻтца̀. И҆ па́ки грѧдѹ́щагѡ со сла́вою, сѹди́ти живы́мъ и҆ ме́ртвымъ, Є҆гѡ́же Ца́рствію не бѹ́детъ конца̀. И҆ въ Дѹ́ха Свѧта́гѡ, Го́спода, животворѧ́щагѡ, И҆̀же ѿ Ѻтца̀ (и҆ Сы́на) и҆сходѧ́щагѡ, И҆̀же со Ѻ҆тце́мъ и҆ Сы́номъ спокланѧ́ема и҆ сосла́вима, глаго́лавшагѡ про́рѡки. Во є҆ди́нѹю свѧтѹ́ю, собо́рнѹю и҆ А҆по́стольскѹю Це́рковь. И҆сповѣ́дѹю є҆ди́но креще́ніє во ѡ҆ставле́ніє

і дзеля нашага збаўленьня зыйшоўшага з неба і ўцелаўлёнага праз Духа Сьвятога з Дзевы Марыі, і ўчалавечанага. Укрыжаванага за нас пры Понцкім Пілаце, і цярпеўшага і пахаванага. І ўваскросшага на трэці дзень водля пісанага. І ўнебаўшэдшага і сядзячага праваруч Айца. І зноў маючага прыйці ў славе судзіць жывых і памёршых, і Валадарству Яго ня будзе канца. І ў Духа Сьвятога, Госпада, жыватворца, ад Айца (і Сына) паходзячага, з Айцом і Сынам спакланяльнага і супахвальнага, гаварыўшага праз пракаў. І ў адзіную, сьвя-

грѣхѡвъ. Чаю воскресенія мертвыхъ: И жизни будущагѡ вѣка Аминь.

## ПАКАЯННАЯ МАЛІТВА

Ослаби, остави, прости, Боже прегрѣшенія наша, вольная и невольная, яже въ словѣ и въ дѣлѣ, яже въ вѣдѣніи и невѣдѣніи, яже въ дни и въ нощи, яже въ оумі и въ помышленіи: вся намъ прости, яко Благъ и Человѣколюбецъ.

## МАЛІТВЫ ДА ПРАЧЫСТАЕ ДЗЕВЫ МТРЫІ

Богородице Дѣво, радуйся, Благодатная Маріе, Господь съ То-

тую, паўсюдную і апостальскую Царкву. Вызнаю адзіны хрост. Спадзяюся ўваскрасеньня памёршых, і жыцьця вечнага. Амін.

## МАЛІТВА КАЯНЬНЯ

Аслаб, астаў, даруй, Божа, правіны нашы, дабравольныя і недабравольныя, якія словам ці дзелам, сьведама ці нясьведама, днём ці ноччу, у думках ці ў намерах: усё нам даруй, Ты бо добры і чалавекалюбны.

Багародзіца Дзева радуйся, ласкі поўная Марыя, Госпад з Табою. Багаслаўлёная Ты між

бо́ю: благослове́нна Ты́ въ жена́хъ и̂ благослове́нъ пло́дъ чре́ва Твоегѡ̀, ꙗ̂ко Спа́са родила̀ є̂си̂ д8шъ на́шихъ.

Досто́йно є̂сть ꙗ̂ко вои́стинн8 блажи́ти Тѧ̀ Богоро́диц8, присноблаже́нн8ю и̂ пренепоро́чн8ю и̂ Ма́терь Бо́га на́шего. Честнѣ́йш8ю херувíмъ и̂ сла́внѣйш8ю бе́зъ сравне́нiѧ серафíмъ, бе́зъ истлѣ́нiѧ Бо́га Сло́ва ро́ждш8ю, с8́щ8ю Богоро́диц8 Тѧ̀ велича́емъ.

По́дъ Твою̀ ми́лость прибега́емъ, Богоро́дице Дѣ́во, моли́твъ на́шихъ не пре́зри въ ско́рбѣхъ, но ѿ бѣ́дъ и̂зба́ви на́съ, є̂ди́на чи́стаѧ и̂ благослове́ннаѧ.

жанчынаў; і багаслаўлёны плод улоньня Твайго, Ты бо нарадзіла Спаса душ нашых.

Дастойна ёсьць сапраўды, бязустанна паважаць Цябе, Багародзіцу, заўсёды ласкі поўную, і найчысьцейшую Маці Бога нашага. Часьнейшую за хэрубімаў і без параўнаньня слаўнейшую за сэрафімаў, радзіўшую Бога Слова ненарушанаю, існую Багародзіцу, Цябе вялічаем.

К Тваёй дабраце зьвяртаемся, Багародзіца Дзева, ня ўзгардзь нашаю малітваю ў журбах, але заслані нас ад бяды, адзіначыстая і багаслаўлёная.

Всѧ̀ небе́сныѧ Си́лы, свѧті́и А́нгелы и҆ Арха́нгелы, моли́те Бо́га ѡ҆ на́съ грѣ́шныхъ.

Оу҆пова́ніе на́мъ Оте́цъ, прибѣ́жище на́ше Сы́нъ, и҆ покрови́тель на́мъ є҆́сть Дꙋ́хъ Свѧты́й: Тро́йце Свѧта́ѧ, Сла́ва Тебѣ̀.

Бо́же, ми́лостивъ бꙋ́ди мнѣ̀ грѣ́шномꙋ.

Бо́же, ѡ҆чи́сти грѣхи̑ моѧ̑ и҆ поми́лꙋй мѧ̀.

Бе́зъ числа̀ согрѣши́хъ, Го́споди, простѝ мѧ̀.

Во и҆́мѧ Отца̀ и҆ Сы́на и҆ Свѧта́го Дꙋ́ха. А҆ми́нь.

Усе нябесныя сілы, сьвятыя Ангелы і Архангелы, малеце Бога за нас грэшных.

Спадзяваньне наша — Айцец, заступніцтва наша — Сын, пацяшэньне наша ёсьць Дух Сьвяты: Сьвятая Тройца, слава Табе.

Божа, будзь літасьцівы нада мною грэшным.

Божа, ачысьці грахі мае і пашкадуй мяне.

Бяз ліку зграшыў, Госпадзе, даруй мне.

У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін.

## ВЫНЯТКІ З КАТЭХІЗМУ

### *Найгалаўнейшыя прыказаньні*

1) Любі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, усею сілаю тваею і ўсімі думкамі тваімі.

Гэта першае і найбольшае прыказаньне, а другое падобнае да яго:

2) Любі бліжняга твайго, як самога сябе.

### *Важнейшыя праўды веры*

1. Есьць адзін Бог, які ўсё стварыў і ўсім кіруе.

2. Бог ёсьць справядлівы судзьдзя, які за дабро нагароджвае, а за зло карае.

3. Ёсьць тры Божыя асобы: Бог-Айцец, Бог-Сын, Бог-Дух Сьвяты, або адным іменем: Найсьвяцейшая Тройца.

4. Другая Божая асоба, Сын Божы, стаўся чалавекам і памёр на крыжы дзеля нашага збаўленьня.

5. Душа чалавека ёсьць несьмяротная.

6. Ласка Божая да збаўленьня канечне патрэбная.

*Дзесяць божых прыказаньняў*

1. Я Госпад Бог твой, ня мей іншых багоў апроч мяне.

2. Ня ўзывай надарэмне імені Божага.

3. Помні сьвяты дзень сьвяткаваць.

4. Паважай бацьку твайго і маці тваю. каб табе было добра і каб ты доўга жыў на зямлі.

5. Не забівай.

6. Ня чужалож.

7. Не крадзі.

8. Ня сьведчы фальшыва на свайго бліжняга.

9. Не пажадай чужое жонкі.

10. Нічога ня прагні, што не тваё.

*Царкоўныя прыказаньні*

1. Сьвяткаваць устаноўленыя сьвяты.

2. У нядзелі і сьвяты Службу Божую пабожна выслухаць.

3. Устаноўленыя пасты пасьціць.

4. Штогоду найменш раз, у Вялікі Пост, спавядайся і прычашчайся.

5. Вясельляў і гульняў у забаронены час не спраўляй.

6. Забароненых кніжак ня чытай.

*Сем сьвятых Тайнаў*

1. Хрост.
2. Мірапамазаньне.
3. Найсьвяцейшая Эўхарыстыя.
4. Каяньне (Споведзь).
5. Алеепамазаньне.
6. Сьвятарства.
7. Жанімства.

*Божыя цноты*

1. Вера. 2. Надзея. 3. Любоў.

*Асноўныя цноты*

1. Разважнасьць. - 2. Справядлівасьць. - 3. Мужнасьць. - 4. Сутрыманасьць.

*Тры галоўныя добрыя ўчынкі*

1. Малітва. 2. Пост. 3. Дарэньне ўбогіх.

*Добрыя ўчынкі для душы бліжняга*

1. Грэшніка направіць.
2. Няўмеку навучыць.

3. Таму, хто сумняецца даць добрую раду.

4. Сумнага пацешыць.

5. Прыкрасьць церпяліва зносіць.

6. Крыўды шчыра дараваць.

7. Маліцца за жывых і памёршых.

*Добрыя ўчынкі для цела бліжняга*

1. Галоднага накарміць.

2. Смагнучага напаіць.

3. Нагога прыадзець.

4. Падарожнага ў дом прыняць.

5. Хворага адведаць.

6. Вязьня ўспамагчы.

*Евангельскія рады*

1. Дабравольная ўбогасьць.
2. Дасьмертнае дзявоцтва.
3. Дасканальная паслухмянасьць духоўнаму кіравецтву.

*Галоўныя грахі і праціўныя ім цноты*

Гордасьць. – Пакора.

Прагавітасьць. – Шчодрасьць.

Бяссорамнасьць. – Сарамязьлівасьць.

Завідлівасьць. – Спагадлівасьць.

Абжорства і п'янства. – Мяркоўнасьць.

Гнеў. – Лагоднасьць.

Гультайства. – Руплівасьць у добрым.

*Грахі супроць сьв. Духа*

1. Цяразмерная надзея на Божую міласэрнасьць.

2. Безнадзейнасьць на збаўленьне, або роспач.

3. Упорыстасьць супроць пазнанае праўды хрысьціянскае веры.

4. Завідлівасьць бліжняму Божае ласкі.

5. Закамянеласьць у грахох.

6. Адкладаньне пакуты аж да сьмерці.

*Грахі,*
*што клічуць Божую помсту!*

1. Умыснае забойства.

2. Скаталожства.

3. Крыўджаньне ўдоваў і сіратаў.

4. Затрыманьне належнае заплаты.

### *Чужыя грахі з нашаю віною*

1. Прынаджваць да граху.
2. Намаўляць да граху.
3. Загадваць грашыць.
4. Дазваляць грашыць.
5. Таіць грэх.
6. Памагаць да граху.
7. Хваліць грэх.
8. Не караць граху.
9. Бараніць грэх.

### *Умовы добрае споведзі*

1. Рахунак сумленьня.
2. Жаль за грахі.

3. Пастанова паправы.

4. Споведзь.

5. Направа крыўды Богу і бліжняму.

*Хрысьціянскі кліч*

Сьцеражыся злога — рабі дабро!

*Апошнія рэчы*

1. Сьмерць. - 2. Божы суд. - 3. Неба. - 4. Пекла.

## ЗНАЧЭНЬНЕ ДОБРЫХ УЧЫНКАЎ

Ісус Хрыстос у сваёй навуцы з асаблівым націскам гаворыць пра вагу і значэньне добрых

учынкаў. Ён называе іх нябесным скарбам. (Мт. 6, 19-21).

“ Ня зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе ржа і моль іх нішчыць, і дзе зладзеі падкопваюцца і крадуць; але зьбірайце сабе скарбы ў небе, дзе ні ржа ні моль іх ня нішчыць, і дзе зладзеі не падкопваюцца і не крадуць. Бо дзе будзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша„.

За добрыя ўчынкі сам Госпад Бог Ісус Хрыстос адплаціць вечным шчасьцем у небе падчас свайго другога слаўнага прыйсьця.

“Калі Сын Чалавечы прыйдзе ў славе сваёй з усімі ангеламі,

тады сядзе на пасадзе свае славы. І зьбяруцца перад ім усе народы, і разлучыць іх адных ад другіх, як пастыр разлучае авец ад казлоў. І паставіць авец праваруч сябе, а казлоў леваруч. Тады скажа Цар тым, што праваруч Яго: — Прыйдзеце багаслаўлёныя Айца майго і атрымайце валадарства, прыгатаванае вам ад стварэньня сьвету. Бо я быў галодны, і вы далі Мне есьці; меў смагу, і вы напаілі Мяне; быў вандроўным, і вы прынялі Мяне; быў голы, і вы адзелі Мяне; быў хворы, і вы наведалі Мяне; у вязьніцы быў, і вы прышлі да Мяне. —

Тады праведнікі скажуць Яму ў адказ: — Госпадзе, калі мы бачылі Цябе галодным, і накармілі, або смагнучым і напаілі? Калі мы бачылі Цябе вандроўным і прынялі? або нагім і адзелі? Калі бачылі Цябе хворым, або ў вязьніцы і прышлі да Цябе? — І адкажа ім Цар у адказ: — Сапраўды кажу вам: адтаму што зрабілі вы гэта аднаму з братоў маіх меншых, Мне зрабілі. — Тады скажа тым, што леваруч Яго: — Ідзеце ад Мяне праклятыя ў вагонь вечны, прыгатаваны нячыстаму і ангелам ягоным. Бо я быў галодны, і вы не накармілі Мяне

меў смагу, і не напаілі Мяне; падарожным быў, і ня прынялі Мяне; голы, і не адзелі Мяне; хворы і ў вязьніцы, і не наведалі Мяне. — Тады адкажуць Яму і тыя: — Госпадзе, калі мы бачылі Цябе галодным, або смагнучым, або падарожным, або голым, або хворым, ці ў вязьніцы і не паслужылі Табе? — Тады адкажа ім: — Сапраўды кажу вам, таму, што не зрабілі гэтага аднаму з тых меншых братоў Маіх, Мне не зрабілі. — І пойдуць гэтыя ў муку вечную, а праведнікі ў жыцьцё вечнае„. (Мт. 25, 31-46).

# ПРЫНАГАДНЫЯ МАЛІТВЫ

## *Раняшняя малітва*

Устаўшы зо сну, дзякую Табе, Трыадзіны Божа, што ў найвялікшай дабраце сваёй і бесканечным доўгацярпеньні не загневаўся на мяне грэшнага(ую) і непатрэбнага(ую), і што не загубіў мяне з маімі правінамі, але ў шчодрай сваёй чалавекалюбнасьці падняў мяне спачываючага(ую) бяз памяці, каб я ранешняю малітваю ўслаўляў(ла) Тваю сілу.

## *Малітва перад сном*

Мілы Божа, дзякую Табе за пражыты дзень, і пашлі мне

шчасьлівую ноч. Дай мне спакойны і бястурботны сон. Пашлі мне свайго Ангела Апякуна, які сьцеражэ ад усякага зла. Даруй мне сёньняшнія мае грахі і правіны словам, дзелам ці думкаю зробленыя, Ты бо Добры і Літасьцівы. Табе хай будзе вечная слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу. Амін.

*Перад пачаткам усякага дзела*

Госпадзе Ісусе Хрысьце, Адзінародны Сыне беспачатнага Айца, Ты сказаў найсьвяцейшымі вуснамі: "Без мяне нічога ня можаце даканаць„. Госпадзе мой, успрыняўшы вераю гэты

Твой сказ у маё сэрца і душу, прыпадаю к Тваёй дабраце і малю Цябе: памажы мне грэшнаму, гэтае мае дзела, што я пачынаю, як для Цябе самога яго выканаць. У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін.

*Кончыўшы ўсякае дзела*

Завяршэньне ўсіх дабрадзействаў ёсьць Ты, мой Хрысьце, напоўні радасьцю і вясёласьцю маю душу і спасі мяне, Ты Адзіны многалітасьцівы.

*Малітва моладзі*

Ойча мой нябесны, цяпер я йду гэткім жыцьцёвым шляхом,

дзе так шмат спакусаў, так лёгка можна ўпасьці ў грэх, так хутка можна заблукацца ў тых дарогах жыцьця, якія яшчэ ляжаць перада мною. Прашу Цябе, сьцеражы мяне праз свайго Ангела Правадніка, ня дай мне ўпасьці, ня дай заблукацца, ня дай згубіць з прад вачэй Твой шлях збаўленьня. Сам, Госпадзе будзь мне правадыром, і пашлі мне добрых дараднікаў, пабожных і чэсных сяброў, ды сумленных настаўнікаў, каб мы ўсе супольна, цяпер і навекі славілі найсьвяцейшае імя Тваё Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін.

### *Малітва перад навукаю*

О, добры Божа, пашлі нам прасьвету Духа Твайго Сьвятога, які дае і ўмацоўвае нашы душэўныя сілы, каб мы ўважліва слухаючы выкладанае нам навукі, узрасьлі Табе, нашаму Стварыцелю, на славу, бацьком нашым на пацеху, Царкве і Бацькаўшчыне на карысьць.

### *Малітва пасьля навукі*

Дзякуем Табе, Стварыцелю, што ласкава дазволіў нам уважна выслухаць навуку. Багаславі нашых кіраўнікоў, бацькоў і настаўнікаў, якія вядуць нас да пазнаньня дабра, і дай

ім сілу і моц прадаўжаць гэту навуку.

*Малітва перад ядою*

Вочы ўсіх да Цябе, Госпадзе, зьвяртаюцца з надзеяю, і Ты даеш усім страву ў добры час, адчыняеш шчодрую руку Тваю, і ўсё жывое сыціш.

*Малітва пасьля яды*

Дзякуем Табе, Хрысьце Божа, што насыціў нас зямнымі Тваімі дарамі: не пазбаў нас і нябеснага Твайго шчасьця; але як паміж вучняў Тваіх, Ты прыйшоў калісь Спасе, мір даючы ім, так і к нам прыйдзі, і спасі нас.

*Малітва да Хрыста Госпада*

Госпадзе, нябесных Тваіх дабротаў не пазбаў мяне; Госпадзе, ад вечных мукаў вызвалі мяне; Госпадзе, розумам ці сэрцам, дзелам ці словам я зграшыў(ла) - даруй мне; Госпадзе, захавай мяне ад усякае няздарнасьці, няўдзячнасьці, маладушнасьці, ды закамянелае нячуласьці. Госпадзе, ад усякае пакусы выбаў мяне; Госпадзе, не дапусьці, каб подлае пажаданьне замарочыла сэрца маё, прасьвяці мяне, Госпадзе, як чалавек я зграшыў(ла), Ты-ж як міласэрны Бог, знаючы немач маю,

зьлітуйся нада мною. Госпадзе, пашлі мне на помач Тваю ласку, каб я праслаўляў(ла) сьвятое Імя Твае. Госпадзе, дай мне шчасьлівы і добры канец жыцьця. Госпадзе Божа мой, хоць я да цяпер не зрабіў(ла) для Цябе нічога добрага, дай мне паводля Твое ласкі зрабіць хоць пачатак добрага, Госпадзе, Госпадзе, сэрца маё зрасі расою ласкі Твае; Госпадзе, мяне грэшнага(ую) і нягоднага(ую) ў Валадарстве Тваім спамяні. Госпадзе, у маім каяньні прыймі мяне, у спакусах самога(ое) не пакідай мяне; Госпадзе, у бядзе і турботах не апускай мяне;

Госпадзе, у цяжкую пакусу ня ўводзь мяне. Госпадзе, добрую думку пашлі мне; Госпадзе, сьлёзы каяньня і памяць аб сьмерці дай мне.

Госпадзе, дай мне спосаб і магчымасьць вызнаць грахі мае. Госпадзе, духа пакоры, нявіннасьці і послуху дай мне. Госпадзе, духа цярпеньня, вялікадушнасьці й любові пашлі мне. Госпадзе, углыбі ў маім сэрцы корань дабра і страху Твайго. Госпадзе, дай мне з усяе душы і сэрца, усімі думкамі любіць Цябе. Госпадзе, памажы мне ўва ўсім спаўняць Тваю волю. Госпадзе, ад людзей няправедных, ад

духаў нячыстых захавай мяне; Госпадзе, ад цяжкіх цярпеньняў, суму, гора і ўсякага зла ўхавай мяне. Госпадзе, Ты знаеш, што ўсё робіш для нашага збаўленьня, дык хай-жа Твая воля дзеяцпа і нада мною грэшным(аю), Ты бо багаслаўлёны на векі вечныя. Амін.

*Прырачэньне вернасьці Ісусу Хрысту*

Найдаражэйшы Спасе, Ты ёсьць для нас усім! Ты нас стварыў і ўтрымоўваеш пры жыцьці. Ты нас адкупіў і ўзгадаваў на сваіх дзяцей. Ад Твайго сэрца да нас ідзе нявымоўны

жар любові. Ты нам даражэйшы чым бацька, маці і браты — даражэйшы чым наша ўласнае жыцьцё. Таму прыракаемо, што ўсім сэрцам будзем Табе адвернымі. Толькі для Цябе аднаго і з Табою Самым хочам жыць і ўміраць, каб з Табою калісь злучыцца ў любові на векі. Амін.

*Малітва да Багародзіцы*

О, добрая Маці Спаса нашага, Прачыстая і Багаслаўлёная Багародзіца Марыя, зьлі на пажадлівую душу маю міласьць Сына Твайго і Бога нашага, і Тваімі малітвамі настаў мяне на



Уладарка ласкі — Маці цярпеньня
Наша надзея і суцяшэньне.

добрую дарогу, каб я рэшту жыцьця майго без заганы прайшоў і праз Цябе асягнуў рай, Дзева адзіна чыстая і Багаслаўлёная.

*Паручэньне сябе ў апеку Прачыстай Дзеве Марыі*

Прачыстая Дзева, Маці Божая, выбіраю Цябе вось цяпер сабе на заступніцу і матку. Шчыра прыракаю і моцна пастанаўляю, ніколі Цябе ня выракацца, і нічога супроць Твае чэсьці ні казаць, ні рабіць. Малю Цябе, прыймі мяне сёньня за слугу свайго на ўсю вечнасьць; памагай мне ў маёй

працы і не апускай мяне ні на хвіліну ні ў гэтым жыцьці, ні перадусім падчас сьмерці, але будзь пры мне заўсёды і ў Валадарства Нябаснае мяне завядзі. Амін.

*Малітва за Беларускі Народ*

Сусьветны Валадару, Прадвечны Божа, Ты ўвесь сусьвет стварыў і законы для ўсяго ўстанавіў, кожнаму мейсца і мэту назначыў, а людзкі род так бясконца палюбіў, што Сына Свайго Адзінароднага паслаў на зямлю, каб усе слухаючы Яго навуку ды йдучы Яго сьледам, увайшлі ў Тваё

Нябеснае Валадарства. Мы дзеці Беларускага Народу, як маглі слухаліся Тваіх загадаў, але з слабасьці чалавечае часта падалі, і зьневажалі Цябе сваімі грахамі. Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашы грэшныя правіны, нашу нядбайлівасьць у адносінах да сябе самых і да іншых; даруй так-жа тым, хто нас крыўдзіў і зьневажаў. Молім Цябе шчыра, барані нас ад крыўды варожай, і дай нам ды ворагам нашым сшчодраю Твае рукою, духа сапраўднае хрысьціянскае любові. Дай нам еднасьць у веры, згоду ў сямейным і грамадзкім ды па-

літычным жыцьці. Загаі нышы асабістыя і ўсенародныя раны душы, якія мы самі сабе спрычынілі, або ад няпрыяцеляў атрымылі. У нашым штодзенным жыцьці, у змаганьнях і спакусах, асьвяці наш розум Тваім евангельскім сьвятлом, каб мы захоўваючы Твае прыказаньні, перамаглі ўсе цяжкасьці і цярпеньні, ды заўсёды Цябе багаславілі. Пашлі Беларускаму Народу сьвятых і вялікіх слугаў сваіх, якія праведным, чэсным і мудрым жыцьцём і дзейнасьцю вялі-б Народ да лепшае долі. Дай нам сьвятое духавенства. Багаславі нашы

сем'і, каб у кожнай з іх дбалы бацька і ахвярная маці, злучаныя шчыраю сьвятою любоўю, Бавыхоўвалі Табе на славу, а Бацькаўшчыне на карысьць сваіх дзетак. Асаблівую ласку дай нашай моладзі, каб яна атрымала глыбокае хрысьціянскае ўзгадаваньне, і ўзрасла на карысных сыноў і дачок свайго народу.

Багаславі так-жа нашы дачасныя дастаткі, ня дай гінуць марна тым талентам, якія Ты ссылаеш у наш народ, але дай ім свабодна разьвіцца і закрасаваць Табе на славу, а ўсяму людству на карысьць. Багаславі

працам сялянства на ральлі, працоўным у фабрыках, вучоным ува ўсіх галінах навукі, мастацтва і тэхнікі, каб за іх помаччу Беларускі Народ мог разумна і прыгожа жыць ды разьвівацца.

Цябе, Прачыстая Багародзіца і наша нябесная Маці, просім: прычыніся за намі, а Ты сьвятая Эўфрасіня Полацкая — патронка Беларусі — ды ўсе сьвятыя заступнікі Беларускага Народу, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам сьвятым, выконваючым Волю Божую і сваё пасланства, каб прычыніліся да агульнага дабра тут на зямлі, а ў прышлым жыцьці



Сьв. Прадслава - Эўфрасіня

Асьветніца Беларусі

атрымалі вечнае шчасьце, і Табе прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсьць і паклон на векі вечныя. Амін.

*Малітва за загінуўшых на вайне*

Госпадзе Ісусе Хрысьце, Божа наш, Ты сказаў: „Няма большай любові, як палажыць душу сваю за сяброў сваіх“, і Сам даў прыклад гэтае ўсеахвярнае любові; просімо Цябе, узглянь ласнавым вокам Тваім на тую вялікую любоў загінуўшых гэрояў, што скрозь па ўсёй Беларусі, і далёка за яе межамі, у знаных і нязнаных, памята-

ных і забытых магілах спачываючых бацькоў, братоў, родных і блізкіх, тых што палі ў баёх, загінулі ў вязьніцах ці згібелі на ссылцы ў далёкіх краінах і ў блізкай зямлі. Злучы іх крывавую ахвяру з сваею крыжоваю ахвяраю. Хай ня будзе дарэмнай тая ахвяра, і няхай на зьлітай іх крывёю зямлі, закрасуе братняя любоў і сьвеціць сонца волі і шчаснай долі народу. А іх самых залічы, Госпадзе, у лік сваіх шчасьлівых слугаў. Яны цярпліва прайшлі цярністы шлях жыцьця, і сваею сьмерцю далі сапраўднае сьвядоцтва сьвятасьці Твайго

найбольшага прыказаньня — прыказаньня любові. Не адкінь гэнай іхнай ахвяры, а прыймі яе, як прыняў ахвяру праведнага Авеля, і дзеля яе ды паводля свае вялікае міласэрнасьці, даруй ім грэшныя правіны, умысныя і няўмысныя, ды супакой душы іх у вечнай славе Тваёй, дзе спачываюць усе сьвятыя. Хай цешацца шчасьлівым агляданьнем Цябе праз вякі вечныя. Амін.

*Малітва за бацькоў і родных*

Усяшчодры Ойча, Ты ў сваёй дабраце памятаеш аб усіх стварэньнях; Твая бацькаўская рука

апякуецца ўсім. Ты дбаеш і пра гняздо кожнае птушкі з птушанятамі і ніштo ў сьвеце ня дзеяцца без Твайго ведама. Пасылаючы Свайго Адзінароднага Сына на гэты сьвет, Ты выбраў для Яго Маці і Апякуна асьвячаючы такім чынам сям'ю. Нябесны Ойча, малю Цябе, багаславі маю радню, як багаславіў Ты сьвятую сям'ю ў Назарэце. Глянь сваім ласкавым вокам на маіх бацькоў, мацуй сілы іх душы і цела, асьвяці іх Тваею сьвятою ласкаю, багаславі працу іх рук, гарачую рупнасьць і пот іхны, пашлі Твайго Ангела, хай ухавае іх

ад усякіх ворагаў тайных і яўных, ад усякае бяды, гора, суму немачы цела і душы, ды захавай іх нам, дзецям, у міры, чэсьці і здароўі, каб правільна вучылі нас слоў Твае праўды. А Цябе Адзінародны Сыне Божы і Сыне Дзевы, прашу, — Ты, каторы быў паслушны свайму нябеснаму Айцу і зямной Матаньцы ўва ўсім, учыні, каб і мы, дзеці, былі падобныя ў гэтым послуху да Цябе, ад Цябе бралі прыклад паслухмянасьці набеснаму Айцу і зямным бацьком, каб гэткім чынам хоць часткава адудзячыліся ім за труды, якія нясуць для нас, ды

аблягчыць іх ім, каб асаладзіць горкасьць туземнага жыцьця, ды садзейнічаць у асягненьні вянца нагароды ў вечнасьці. Духу Сьвяты, усюдыприсутны і ўсёнапаўняючы, скарбніца ўсіх дабрадзействаў і ласкаў, прыйдзі і жыві між намі; няхай наша хата будзе Табе сьвятыняю, сашлі на нас Твае сьвятыя дары, няхай плады Твае будуць відавочныя ў нашай сям'і, няхай усіх нас лучыць любоў і пануе нябесная радасьць, ды Божы мір. Ты бо ёсьць Валадар міру і любові, дык дазволь-жа каб мы славілі Цябе, Найсьвяцейшая Тройца,

Айца і Сына і Сьвятога Духа, цяпер і заўсёды і навекі вечныя. Амін.

*Малітва за памёршых*

Успомні, Господзе, сьмяротна заснуўшых у надзеі ўваскрасеньня да жыцьця вечнага, нашых бацькоў, і братоў, і ўсіх, якія ў пабожнасьці і веры скончылі жыцьцё; даруй ім усякую праграшнасьць дабравольную і недабравольную, якою яны правініліся словам, дзелам ці думкаю; і вазьмі іх к Сабе, дзе будуць цешыцца сьвятлом, і ахалодай, і супакоем вечным, дзе няма болю ні суму, ні ўзды-

ханьня; дзе вечнашчасьлівым загляданьнем Цябе будуць захапляцца. Дай ім і нам Валадарства Твае і ўдзел у дабротах Тваіх, і насалоду Твайго бесканечнага і нявымоўнага жыцьця. Ты бо ёсьць шчасьце, жыцьцё, уваскрасеньне і супакой памёршых слугаў Тваіх, Хрысьце Божа наш, за што Табе славу засылаем і нясканчатнаму Твайму Айцу, і найсьвяцейшаму і жыватворчаму Духу, цяпер і заўсёды, і навекі вечныя. Амін.

*Малітва аб багаславенстве*

Госпадзе Сьвяты, што жывеш у вышынях і ўсявідзячым вокам

Тваім спаглядаеш на ўсякае стварэньне, мы схіляем перад Табою голаў, і молімся Табе, Сьвяты Сьвятых, працягні Тваю нябачную руку із сьвятога Твайго неба і багаславі ўсіх нас; і калі мы ў чым зграшылі дабравольна ці недабравольна, Ты як добры і чалавекалюбны Бог даруй, і дай нам Твае зямныя і нябесныя багацьці. Ты бо ёсьць Той, што мілуеш і збаўляеш, Божа наш, і Табе славу засылаем, Айцу і Сыну і Сьвятому Духу, цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін.

## *Малітва сіраты*

Нябесны мой Ойча і Міласэрны Госпадзе! к Табе зьвяртаюся, як да адзінае Пацехі і Пяцяшыцеля ўсіх засумованых і абяздоленых, і з гарачымі сьлязамі малю Цябе ў маім сіроцтве: не забудзь мяне бедную сіраціну.

У Твае рукі аддаю долю ўсяго майго жыцьця. Мацуй-жа мяне ў веры, надзеі й любові, ды дапамажы Тваімі ласкамі вытрываць у добрым аж да сьмерці. А маё сэрца, Нябесны Ойча, напоўні цярплівасьцю ды пацехаю, калі нястача і гора

насылацімуць на мяне чорную роспач. Сэрца маіх бліжніх пабудзі да літасьці і помачы ў адносінах да мяне, і багаславі ўсіх тых, што спамагаюць мяне і асалоджваюць маё сірочае жыцьцё. Узнагарадзі іх Тваімі нябеснымі і зямнымі дарамі. А пакойным маім бацьком (бацьку, маме) дай вечнае шчасьце ў Тваім Валадарстве. Амін.

*Малітва ў няшчасьці*

Усемагутны Божа, без Твае веды і волі нават волас з галавы не спадае, і маё няшчасьце сталася з Твайго сьвятога допусту. Ня ведаю, Ойча мой,

я Тваіх плянаў, і хоць ведаю, што ўсё Ты мне на карысьць робіш, але цяжка нясьці мне гэты крыж цярпеньня, дык Цябе Уселітасьцівага Айца малю: аблягчы мне маё цярпеньне, злагодзь мой боль. Ты, Госпадзе Ісусе Спасе наш, калісь Сам падаў, нясучы крыж на Гальготу, а цяпер я да ног Тваіх прыпадаю і палёгкі цярпеньня майго ў Цябе прашу. Знаю Госпадзе, што справядліва Ты мяне караеш, бо хто з людзей без граху? а я з грэшнікаў найгоршы(ая). Ці раз, Госпадзе, у спакойным жыцьці аб Табе забываўся (лася), Волю Тваю

сьвятую не ўважаў(ла), так як Ты загадаў, добрых учынкаў не рабіў(ла), — але Ты ўсёлітасьцівы даруй мне ўсё гэта паводля Твае бесканечнае міласэрнасьці і дай мне на прышласьць ахвоту і сілу жыць паводля Тваіх прыказаньняў і спаўняць Тваю сьвятую Волю. Выслухай мяне, Нябесны Ойча, зьлітуйся нада мною, суцеш мяне, бо Ты ёсьць Бог, што мілуе і спасае, і Табе славу засылаем Айцу і Сыну і Сьвятому Духу, цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін.

## *Малітва на ўсякую патрэбу*

Багаслаўлёны Ты, Госпадзе Божа ўседзяржыцелю, што знаеш людзкія душы, знаеш чаго мы патрабуем, і шмат больш даеш, чым мы просім і разумеем. Сам любячы нас Валадару, ува ўсём Добры, задаволь нас багацьцем ласк Тваіх, каб мы непасаромленым сумленьнем прызывалі сьвятое Імя Тваё, і ня ўводзь нас у спакусу, але выбаў нас ад злога, і правідам Тваім уладзь усё на нашу карысьць. Бо Табе належыцца ўсякая слава, чэсьць і паклон Айцу і Сыну і Сьвятому Духу,

цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін.

*Малітва за ўсіх і за ўсё*

Даруй, Госпадзе міласэрны, тым, што нас крыўдзяць; тым што робяць дабро - дабром адплаці. Братом і ўсім суродзічам нашым дай заспакаеньне ўсіх просьбаў што да спасеньня і жыцьця вечнага. Наведай і аздараві немачных і хворых; для тых што на моры будзь праваднікам; падарожным будзь спадарожнікам. Успомні, Госпадзе, палонных братоў нашых, аднаверцаў праваслаўнае веры і вызваль іх ад усякага няш-

часьця. Памілуй, Госпадзе, тых, што служаць нам і любяць нас, і дай ім усё, што яны просяць да збаўленьня і жыцьця вечнага. Успамяні, Госпадзе, памёршых бацькоў і братоў нашых і ўсіх, якія ў правай веры скончылі жыцьцё, і ашчасьліў іх зьзяючым сьветам віду Твайго Узглянь, Госпадзе, на немач і лютасьць нашу ды прасьвяці наш розум сьвятлом разуменьня Твайго сьвятога Евангельля, і настаў нас на шлях прыказаньняў Тваіх, дзеля малітваў Прачыстае Твае Маці і ўсіх сьвятых Тваіх. Амін.



Сьвятыя славянскія
Апосталы Кірыла і Мяфод

## МЭТА НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ

Беларускі народ, падобна як шмат іншых народаў, знае прыгожую лягэнду пра „Кветку шчасьця“ — кветку папараці. Шчасьце — вось тая чароўная мэта, да якое ймкнуцца людзі ўсіх часоў, усіх нацыяў і ўсіх станаў. Але ці ёсьць хоць адзін чалавек на зямлі, які-б гэтае шчасьце асягнуў? — Пайдзі на магільнік, глянь на тыя нязьлічоныя магілы, сьвежыя і даўныя ўжо ледзь прыметныя — там ляжаць тыя, што жылі перад намі, і можа тут блізка, ці дзесь далёка, ёсьць тое мейсца, дзе і

ты спачнеш навек, і ніякая людзкая сіла ні веда ня выратуе цябе ад сьмерці! Дык ці ёсьць шчасьце на зямлі, калі ўсё канчаецца магілаю? Дзе тая кветка шчасьця? Не, на зямлі шчасьця няма! Дык дзе-ж яно? Няўжо яго нідзе няма? Няўжо мы дарэмна так прагнем таго шчасьця, дабра, красы і праўды? О не! Той, Хто стварыў людзей, Хто ўлажыў у людзкія душы жаданьне шчасьця, Той азначыў дзе і як мы гэтае жаданьне заспакоім. Прамудры Бог - Творца ўсяго жыцьця, тым вырозьніў чалавека між усіх створэньняў, што прызна-

чыў яго да жыцьця вечнага ў Сябе, у Небе. Значыць мы жывём на Зямлі, але не для Зямлі. На Зямлі мы толькі павінны пазнаць Бога і Яго прыказаньні, ды выконваць гэтыя прыказаньні — Божую волю, і за гэта пасьля атрымаць тое жаданае шчасьце — вечнае шчасьце ў Небе, дзе заспакояцца ў найвышэйшай ступені, нават больш як мы спадзяёмся і ўяўляем, усе жаданьні нашае душы. Вось якая мэта нашага жыцьця.

Аб гэтым, мы людзі, самы ніколі не дагадаліся-б, ні дадумаліся таму міласэрны Бог аб'явіў гэта людзям праз сваіх

пракаў, а пасьля Сын Божы, Ісус Хрыстос, часта і шмат навучаў аб Нябесным Валадарстве — мэце нашага жыцьця.

*Аб Царкве*

Але паўстае пытаньне: Як-жа сёньня даведацца сапраўдную навуку прарокаў і Хрыста? Хто гэтую навуку сьцераже непарушнаю? Сьцераже гэтую навуку сьв. Царква, умысна дзеля гэтага і дзеля спасеньня людзей заснаваная Хрыстом. Тут аднак зноў вырынае засьцярога: Сёньня натварылася такая процьма розных царкоў (не дамоў малітвы, але арганізацыяў), што

і толку між імі ня знойдзеш. Як-жа пазнаць між імі праўдзівую Царкву? Ды ці агулам яшчэ такая існуе? Пэўна што існуе, і будзе існаваць вечна, бо яе збудаваў сам Хрыстос. Ен казаў: „Збудую Царкву маю, і сілы пякельныя не перамогуць яе“. І гэтая Царква мае такія прыметы, па якіх яе можна ясна адрозьніць ад усякіх іншых царкоў.

*Прыметы хрыстовае Царквы*

У Сымбале веры, уложаным сьв. Айцамі двох першых сусьветных сабораў, кажацца: Веру ў адзіную, сьвятую, паўсюдную

і апостальскую Царкву. Гэта вось і ёсьць тыя прыметы, па якіх можна адрозьніць праўдзівую Хрыстову Царкву ад усіх хвальшывых „падробленых„ людзьмі, як па уніформе (аднастрою) і азнаках адрозьніваем ваяка аднае дзяржавы ад другое.

Праўдзівая Хрыстова Царква ёсьць адзіная так як адзін ёсьць Бог, і адзін нявідзімы галава Царквы Ісус Хрыстос, які заснаваў Царкву і пакінуў на зямлі свайго намесьніка. Гэтым намесьнікам зьяўляецца наступнік сьв. ап. Пятра - Сусьветны Патрыярх рымскі. У праўдзівай

Царкве ёсьць адна вера, адна надзея, адна любоў, адно духовае жыцьцё, адна вышэйшая ўлада і адно вучыцельства.

Праўдзівая Хрыстова Царква ёсьць **сьвятая** ў тым разуменьні, што яна зьяўляецца містычным Целам Хрыста; ажыўляецца Духам Сьвятым; мае сьвятую мэту — збаўленьне душаў; мае сьвятыя Тайны, якімі асьвячвае людзей і захоўвае сьвятую Божую навуку. Дзеля гэтага шматлікія з членаў Царквы дайшлі да вялікай, нават гэраічнай сьвятасьці, пацьверджанай цудамі.

Праўдзівая Хрыстова Царква

ёсьць паўсюдная: гэта значыць, што яна сусьветная. Яна імкнецца спасьці ўсіх людзей усіх часаў, усіх народаў і ўсіх станаў. Пацаркоўнаславянску яна называецца: саборная, а пагрэцку: „католікэ“, гэта значыць усеагульная, звычайна кажуць Каталіцкая Царква.

Праўдзівая Хрыстова Царква ёсьць апостальская ў тым значэньні, што яе духавенства (іерархія) законна і ў простай лініі выводзяцца ад самых Апосталаў. Яна цьвёрда трымаецца апостальскіх традыцыяў і асноўвае сваю навуку на навуцы Апосталаў. Яна ажыўляецца

апостальскім духам гэройскай душпастырскай самаахвярнасьці.

## ПАЯСЬНЕНЬНЕ СЬВ. ТАЙНАЎ

### *Хрост*

Народзіцца чалавек на сьвет, і ўжо бацька і маці турбуюцца яго доляю. Але ёсьць яшчэ адзін Бацька — Бацька ўсіх — Айцец Нябесны, Ён для чалавека стварыў увесь сусьвет і даў чалавеку свой вобраз і падобу — душу разумную і несьмяротную. І гэты Бацька хоча, каб людзі акрамя звычайнага нараджаньня, нараджваліся яшчэ духова, бо толькі тады можна

стацца Яго дзяцьмі: „Сапраўды, кажу вам, хто не народзіцца ад вады і духа, ня можа ўвайсьці ў Царства Нябеснае; бо народжанае ад цела ёсьць цела, а народжанае ад Духа ёсьць Дух„ (Ів. 3,5-6). І вось гэтае духовае народжаньне адбываецца падчас хросту. Тады праз занураньне ў ваду, або праз самае паліцьцё вадою, пры адначасным выгаворваньні слоў „Крашчаецца раб Божы... у імя Айца і Сына і Сьвятага Духа. Амін“. Змываецца першародны грэх і ўсе іншыя грахі і атрымоўваецца ласка ўсынаўленьня Божага. Бацькі памятайце аб

гэтым, бо калі з вашае віны ўмрэ няхрышчонае дзіця, вы цажка грашыце, бо бяз хросту няма ўступу да неба. На ўсіх хрысьціянах ляжыць так-жа вялікі абавязак пашыраць Хрыстову веру паміж няхрышчоных, і ўсіх прыводзіць да хросту. Бо ня толькі да апосталаў, але да ўсіх верных адносяцца словы Хрыста: „Ідзеце навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа“.

## МІРАПАМАЗАНЬНЕ

У нас, ува ўсходнім абрадзе, звычайна сьв. Тайна Мірапамазаньня даецца разам з хрос-

там, у лацінскім пазьней. У гэтай сьв. Тайне атрымоўваецца адумысная ласка Божая для ўмацаваньня веры і абароны веры. Мірапамазаньне падобна як і хрост даецца толькі раз у жыцьці чалавека. Бо яны выціскаюць асаблівае таўро на душы чалавека, якое ніколі ня трацiцца.

## СПОВЕДЗЬ

Споведзь так-жа называецца сьв. Тайнай Каяньня. Устанавіў яе Хрыстос для адпушчэньня грахоў. Пасьля свайго ўваскрашэньня Хрыстос, зьвяртаючыся да апосталаў, сказаў: „Прымеце

Духа Сьвятога, каму адпусьціце грахі, таму будуць адпушчаны, а каму затрымаеце, таму будуць затрыманы“. (Ів. 20,22-23). Гэтая ўлада і цяпер ёсьць у сьв. Царкве і перадаецца духоўнікам у сьв. Тайне Сьвятарства. Дзеля адпушчэньня грахоў, трэба вызнаць іх сьвятару, каб ён мог асудзіць, хто варты разграшэньня, а хто не прыгатаваны да яго. Трэба ведаць, што грэх, гэта найгоршае зло, якое агулам існуе на сьвеце, куды горшае за самую сьмерць, бо праз грэх чалавек траціць вечнае шчасьце, Рай — мэту

свайго жыцьця, і заслугоўвае на вечную кару — пекла.

Каб споведзь была важнаю і спасаючаю, трэба вызнаць усе грахі, якія памятаеш. Лепш зусім не спавядацца, чым затойваць грэх, бо затаіўшы цяжкі грэх, ня толькі не атрымоўваеш адпушчэньня грахоў, але наадварот, яшчэ цяжэй грашыш, бо сьвятар разграшае ў імені Бога Усеміласэрнага, але і ўсезнаючага; калі-ж ты затойваеш грэх, выглядае так быццам хочаш адурыць Бога.

Каб добра выспавядацца, трэба перш добра прыпомніць сабе ўсе свае грахі, зрабіць ра-

хунак сумленьня, пасьля ўзбудзіць жаль за грахі, за чорную зьнявагу Нескančатнай Сьвятасьці — Бога, і пастанавіць на будучыню паправіцца, усімі сіламі высьцерагацца граха.

*Рахунак сумленьня*

Робіцца гэтак: Згаварыўшы малітву да Сьвятога Духа, прыпамінай сабе грахі проці Бога, людзей і сябе самога; грахі думкаю, словам ці дзелам. Пачынаючы ад апошняе споведзі прабягай думкаю ўсе падзеі свайго жыцьця, маючы ў памяці Божыя і царкоўныя прыказаньні. Прыпамінай так-жа

колькасьць грахоў супроць кожнага прыказаньня, або прынамся, як часта дапушчаўся таго самага грыху. Для аблягчэньня рахунку сумленьня пераглянь наступныя пытаньні:

I. Ці ня сумняваўся ў праўдах сьв. веры і ці не разбуджваў такіх сумніваў у іншых? Ці любіў прыслухоўвацца бязбожным гутаркам? або сам прымаў у іх удзел? Ці верыў у варажбу і забабоны? Ці ня стыдаўся свае веры? Ці не занядбаў малітву?

II. Ці ня прысягаў дарэмна, або крывадушна? Ці з пашанаю вымаўляў імя Божае, або

сьвятых? Ці праклінаў? Ці не зласловіў супроць Бога?

III. Ці не працаваў у надзелю або ў сьвята без вялікае патрэбы? Ці быў на Службе Божай?

IV. Ці паважаў бацьку і матку і ці слухаў іх? Ці не даводзіў іх сваімі паступкамі да суму і сьлёз? Ці не жадаў ім зла і ці не гаварыў дрэнна аб іх? Ці шанаваў старшых? Як выконваў свае абавязкі адносна Бацькаўшчыны?

V. Ці ня біў каго? Ці пашкодзіў каму або сабе на здароўі? Ці жадаў зла іншым, ці праклінаў іх? Ці помставаў? Ці ня мучыў жывёлы?

VI. і IX. Ці ня думаў дабравольна аб бясстыдных рэчах? Ці не гаварыў бясстыдных слоў? Ці не забаўляўся бясстыдна з сабою, або з іншымі, і як часта? Ці не шукаў нагоды да распусты? Ці не гаварыў аб брыдкіх рэчах? Ці не дапускаўся якіх брыдкіх учынкаў? Можа каго згоршыў?

VII. Ці ня ўкраў чаго? Ці не ашукаў каго? Ці аддаў уласьніку пазычаную, знойдзеную, або ўкрадзеную рэч? Ці направіў зробленую шкоду? Можа каму жадаў зрабіць што дрэннае?

VIII. Ці не гаварыў няпраўды (лгаў)? Можа ўдаваў каго

і праз гэта зрабіў яму крыўду? Можа выяўляў без патрэбы чужыя тайны?

X. Можа завідаваў каму? Можа стараўся прысвоіць сабе чужыя рэчы?

*Царкоўныя прыказаньні*

1. Ці належна сьвяткаваў сьвяты?

2. Ці праводзіў сьвяты дзень у цэркві, ці дзесь у п'янай кампаніі?

3. Можа без асаблівых прычын у посныя дні еў скаромнае?

4. Ці адбыў вялікодную споведзь і сьв. Прычасьце?

5. Ці ўдзельнічаў у гульнях у забароненым часе?

6) Ці чытаў паганыя кніжкі і часапісы?

Наступна пераглянь галоўныя грахі, чужыя грахі з уласнаю віною і грахі супроць Сьвятога Духа ды інш. Прыпомні, можа калі меў магчымасьць і абавязак зрабіць добры ўчынак для свайго бліжняга ды не зрабіў?

Калі так усё прыпомніш, убачыш колькі дрэннага і грахоўнага ёсьць на тваім сумленьні, і ўсё гэта з твае віны; і праз гэта заслугоўваеш на вечную

кару, бо ў гэткім стане нельга ўвайсьці ў Неба і аглядаць Бога.

### *Жаль за грахі*

Калі ўсьведаміш сабе, што замест удзячнасьці добраму Богу, ты Яго сваім няпослухам страшэнна абразіў, а робячы праціўнае Божым прыказаньням, ты Яго бясканечна зьняважыў; бо хто ты, што сёньня ёсьць, а заўтра цябе няма, – а хто Бог – вечны Валадар сусьвету; акрамя гэтага, праз грахі ты ўтраціў вечнае шчасьце: — дык ясна што пасьля гэтага мусіць паўстаць у сэрцы

шчыры жаль і жаденьне ачысьціцца ад усіх гэтых грахоў і на прышласьць больш не грашыць, але сапраўды любіць Бога, так як Ён на гэтую любоў заслугоўвае.

Пасьля гэтага ідзі да сьвятара і шчыра выспавядайся. Запамятай тую пакуту (эпітымію), якую назначыць табе сьвятар перад разгрэшэньнем і пастарайся чым хутчэй і шчырэй яе адправіць. Калі няўмысна забыўся сказаць якісь цяжкі грэх, дык мусіш вызнаць яго пры найбліжэйшай наступнай споведзі.

Пасьля споведзі не забудзься

падзякаваць Богу сваімі славамі, ўсёроўна як роднаму бацьку, за тое, што даў табе зноў сваю Ласку і прасі, каб умацаваў тваю волю высьцерагацца грахоў і ўзбагачвацца ў цноты.

## НАЙСЬВЯЦЕЙШАЯ ЭЎХАРЫСТЫЯ

„Не пакіну вас сіратамі, прыйду да вас“, гаварыў Хрыстос у разьвітальнай мове да сваіх Апосталаў. „Бо я жыву і вы жывы будзеце“. І сапраўды Ён не пакінуў нас, Ён жыве між намі і ажыўляе ўсіх вераю і любоўю. Толькі цяпер Ён у ін-

шым як калісь выглядзе; у найбольш прыніжаным, але найбольш прыступным, у выглядзе Найсьвяцейшае Эўхарыстыі — там у сьвятыні пад відам пшанічнага хлеба і вінаграднага віна прысутныя Цела і Кроў Яго — Сам жывы Хрыстос. Дзеецца гэтая сьв. Тайна ў часе Літургіі, або інакш Службы Божае, падчас таго як сьвятар вымаўляе словы: „...сіе есьць Цела мае...“ і „...сія есьць Кроў мая...“ пераісточваецца хлеб у Найсьвяцейшае Цела, а віно ў Найсьвяцейшую Кроў Ісуса Хрыста. Таму Служба Божая зьяўляецца найважнейшаю ня

толькі з усіх службаў, якія ёсьць у Царкве, але агулам ад усіх дзеяньняў, якія ёсьць у сьвеце. Тут прыносіцца тая страшэнная сьвятая Ахвяра любові Божае, якую Сын Божы, Ісус Хрыстос калісь прынёс на крыжы, з тою толькі розьніцаю, што цяпер яна паўтараецца ў бяскроўны спосаб. Дзеля гэтага сьв. Царква забавязвае кожнага верніка штонядзелі і сьвята пабожна выслухаць Службу Божую.

Кожны чалавек, што дапусьціўся хоць аднаго цяжкога граху, траціць ласку Божую, якую атрымаў падчас хросту, і ўласнымі сіламі ня мае ні здоль-

насьці, ні магчымасьці належна за гэты грэх адпакутаваць; нават коштам цэлага свайго жыцьця і сьмерці. Сам чалавек ня здолеў-бы атрымаць ад Бога дараваньня грахоў ніколі. Тольлькі ахвяра самога Сына Божага ў людзкой постаці, Ісуса Хрыста, задосыцьучыніла Богу за ўсе нашы грахі. Гэтую ахвяру з любові да людзей Хрыстос прынёс на крыжы за ўвесь людзкі род, а падчас Службы Божае гэтая Ахвяра паўтараецца ў інтэнцыі таго, за каго правіцца Служба Божая і ў інтэнцыі прысутных.

Прымаць Найсьвяцейшую Эў-

харыстыю — прычашчацца — можа толькі той, хто знайходзіцца ў стане ласкі Божае, якую атрымоўваем у тайне Хросту і ў Каяньні - Споведзі. Бяручы пад увагу тое, якія вялікія ласкі даюцца ў Найсьвяцейшай Тайне Эўхарыстыі, старайся магчыма часьцей прычашчацца.

*Малітва перад Прычасьцем*

Знаю, Госпадзе, што калі нягодна прыйму Найсьвяцейшае Твае Цела і Кроў дык буду вінаватым, спажыву сабе на суд не на збаўленьне. Але здаюся на Твае ласкі, прыходжу к Табе,

бо Ты сказаў: „Хто спажывае мае Цела і п'е Маю Кроў, той ува Мне прабывае, а Я ў ім". Дык зжалься, Госпадзе, і не асудзі мяне грэшнага, але паступі са мною паводля міласэрнасьці Твае. Хай будзе мне гэтае сьвятое Прычасьце на аздараўленьне і ачышчэньне, і прасьвятленьне, і захаваньне, і збаўленьне, і ў асьвячаньне душы і цела, хай забясьпечыць ад мрояў ды ўплываў нячысстага, што думкаю ў целе маім дзейнічае, хай будзе на спадзяваньне і любоў да Цябе ды направу жыцьця, хай умацуе ў веры і склоннасьці да дабра, у

паслухмянасьці Тваім прыказаньням, хай злучыць з Духам Сьвятым, і ўдастоіць ласкавага асуду на Страшным судзе, а ніколі ня будзе мне ў суд ці засуджэньне. Амін.

*Малітва пасьля Прычасьця*

Госпадзе Ісусе Хрысьце, мой Збавіцею, няхай Цела Твае сьвятое будзе мне на жыцьцё вечнае, а Найсьвяцейшая Кроў Твая на дараваньне грахоў; хай будзе мне гэтая Эўхарыстыя на радасьць і здароўе. А ў часе страшнага Твайго другога прыходу, хай мяне грэшнага зро-

біць годным быць у Тваей Славе дзеля малітваў Твае Прачыстае Маці і ўсіх сьвятых. Амін.

## АЛЕЕПАМАЗАНЬНЕ

„Хварэе хто між вамі, паклічце духоўніка, хай ён памоліцца над хворым, памазуючы яго сьв. Алеем, а лягчэй яму стане, і грахі будуць адпушчаны“. (Як. 5,14) Мілы Госпад наш Ісус Хрыстос ведаў добра, што чалавеку трэба. Ведаў нашае гора, боль, што чалавек часта сам грахамі на сябе напускае. О, як молім тады, і чакаем помачы! Ня толькі лекарскай –

фізычнай, але і духовай, псыхічнай. Бо баліць цела, баліць і душа, чуючы на сабе віну. Ня ряз адно слаўцо пацехі дзее на хворага, як бальзам. Але што значыць людзкая помач і пацеха? Як часта яны зусім ня выстарчаючыя! Таму Хрыстос устанавіў адумысную тайну для хворых, праз якую атрымоўваецца Божая ласка помачы. Завецца яна сьв. Тайна Алеепамазаньня. Аб ёй і павучае сьв. Апостал Якуб. Хрысьціяне карыстаюцца гэтаю Тайнаю з даўндаўных, яшчэ ад часоў апостальскіх і аж па сёньняшні дзень. Карыстай і ты, мой браце,

калі, ня дай Божа, цяжка захварэеш, або спадзявацімешся сьмерці. Не забывайся толькі, што ў той самай хваробе гэтую Тайну можна прымаць толькі раз.

Як прыгатавіцца да яе? Ачысьці цела праз ахайную прызваітасьць, а душу ачысьць праз шчырую і пабожную споведзь. Паяднайся з Хрыстом у Найсьвяцейшай Тайне Эўхарыстыі. Тады нічога ня бойся! Мей надзею! Боль скончыцца: або перамогай здароўя, або вечным паяднаньнем з Богам - Шчасьцем бясконцым.



СЬВ. МІКОЛА

## СЬВЯТАРСТВА

Гэта сьв. Тайна праз якую даецца чалавеку адумысная Божая ласка ўдзяляць сьв. Тайны і выконваць іншыя павіннасьці сьв. Царквы. Праз гэтую Тайну звычайны чалавек становіцца сьвятаром. Годнасьць сьвятара ў шмат чым перавышае нашу ўяву. Апостал Павал называе сьвятароў слугамі Божымі і раздаўцамі Тайнаў Божых. Справа збаўленьня душы чалавека перадана Богам у рукі сьвятара; яму дана права адпускаць грахі, або іх затрымоўваць. На сьв. Службе Божай

сьвятар паўтарае ў бяскроўны спосаб крывавую Ахвяру Хрыста за ўвесь людзкі род. Як калісьці Хрыстос на Тайнай Вячэры, так сьвятар падчас Службы Божае паўтарае словы: „Прыіміце ядзіце, сіе ёсьць Цела Мае“ і т. д. І потым раздае вернікам Эўхарыстыю.

Ідэйная сьвятарская праца перавышае ўсякае гэройства, бо сьвятар пастаўлены на службу народу — ён павінем ахвяроўваць Эўхарыстычнага Хрыста і сябе самога за народ, ён мусіць быць годны сказаць: „Прыймі, Божа, маю бяскроўную Ахвяру і мяне самога як ахвяру“ —

гэта мэта жыцьця сьвятара, бо гэткім чынам ён асьвячвае людзей і запэўнівае ім спасеньне. Гэтае высокае становішча вымагае вялікае сьвятасьці і належнае годнасьці, дзеля гэтага нават найменшая пляма ў жыцьці, або ў характары сьвятара вельмі коле ў вочы людзям. Вернікі не павінны забывацца аб малітвах за сьвятароў. Трэба часта маліцца, каб Госпад Бог даў сьвятаром моц вытрываць непахісна на іх трудным і адказным становішчы.

Сьв. Тайну сьвятарства можна прыймаць толькі раз у жыцьці. Ёсьць розныя ступені сьвятар-

ства: дыяканы, сьвяшчэньнікі, біскупы, а над усімі сусьветны Патрыярх - Сьвяцейшы Айцец у Рыме. (Таму сьвяцейшы, што над сьвятымі справамі Хрыстом пастаўлены).

*Малітва аб добрых сьвятарох*

Прадвечны Божа, узглянь на наш народ і дай яму ў кожным пакаленьні, аж да канца сьвету біскупаў і сьвятароў сьвятых і поўных Твайго Духа — пастыраў і настаўнікаў Твайго закону, каб яны ўмелі захоўваць бяз зьменаў праўду Твайго сьвятога Аб'яўленьня, і ў духу

любові навучаць і судзіць увесь народ.

Падай, Божа, сьвятаром сваю Ласку ніколі не баяцца ніякае ахвярнасьці для Твае славы і для дабра народу.

Распалі ў іх сэрцах дух працавітасьці для збаўленьня душ. Адкрый перад іх вачыма Прамудрасьць Твайго Аб'яўленьня і дай ім высокае пачуцьцё сьвятасьці тае справы да якое Ты іх паклікаў. Багаславі іх працу, іх добрыя намеры. Захавай іх ад усякага ліха, перадусім ад сьмяротнага граху. І злучы іх Тваёю ласкаю, каб былі адно ў любові, так як Ты,

Ойча, з Сынам сваім і Сын з Табою. Амін.

## ЖАНІМСТВА (Сужэнства)

Народзіны і ўзгадаваньне чалавека, а да таго ўпарадкаваньне плоцьнага і сямейнага жыцьця ёсьць так труднай і важнай справай, што трэба было на гэта аж Богам заснованай установы, даючай гэтым людзям Божую помач, адумысную Ласку. Установа гэта завецца сьв. Тайнай Сужэнства. Перш-на-перш яна арганізуе сям'ю, бо толькі ў сямейным жыцьці багаславіць Бог стан бацька і маці. Бацькі па-

вінны ня толькі даглядаць дзяцей, каб яны былі здаровыя, але так-жа ўзгадаваць іх, каб вырасьлі на сапраўды карысных людзей. Кожны бацька і маці, часта нясьведама, стараюцца назьбіраць для сваіх дзяцей маемасьць; трэба аднак памятаць, што важней за ўсякую матэрыяльную маемасьць і багацьце ёсьць цноты, таму найбольш узбагачвае сваіх дзяцей той, хто ўзбагачвае іх у духовыя цноты. Цнотаў ніякі пажар ня зьнішчыць і ніякі злодзей не ўкрадзе — памятай аб гэтым.

Перш чым уступіць у жанімства, разваж, што ты добрае

маеш і што можаш унясьці ў сям'ю. Калі думаеш у сямейным жыцьці шукаць толькі прыемнасьці і роскашы — вельмі хутка і горка расчаруешся, бо жанімства накладае на сужэнцаў важныя і адказныя павіннасьці. На тое Хрыстос і падняў жанімства да годнасьці сьв. Тайны, каб сужэнцам даць ласку выканаць належна іх цяжкія абавязкі і асьвяціць іх турботнае жыцьцё.

Маліся да Бога, каб ніколі ня страціць тае ласкі, якую ты атрымаў у сьв. Тайне Жанімства, але ўзрастаў і ўзбагачваўся ў ёй.



# МАЛІТВА ДЗІЦЯЦІ

О, Ангеле, Дружа мой!
Ты заўсёды пры мне стой;
Рана, ўвечар і ўначы
Будзь ласкаў мне памагчы:

Змагаць духа злога,
Верна служыць Богу,
Любіць маму, тату,
Край і родну хату.



Пусьцеце дзяцей і не перашкаджайце
ім прыходзіць да Мяне. (Мат. 19,14)

# КАЛЯДНЫЯ

## *Неба і зямля*

Неба і зямля, неба і зямля,
радасна сьпяваюць.
Ангелы сьвету, ангелы сьвету,
дзіва абвяшчаюць.
Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся,
Ангелы сьпяваюць, Бога вітаюць,
Вол з аслом клякаюць, пастушкі
[іграюць,
„Дзіва, дзіва„ аглашаюць!

У Віфлііеме, у Віфлііеме,
вясёла навіна:
Чыстая Дзева, чыстая Дзева
нарадзіла Сына!
Хрыстос радзіўся і г. д.

---

Увага: Дзеля нястачы знаку – Ў выняткова замяняем яго знакам – ў.

Слова Айцова, Слова Айцова
ўзяло сабе цела.
У земнай цемры, у земнай цемры
Сонца засьвяціла!
Хрыстос радзіўся і г. д.

Ангелы служаць, ангелы служаць
сваяму Уладару.
І у паветцы, і у паветцы
дзеюць Яго волю.
Хрыстос радзіўся і г. д.

Мудрацы слаўны, мудрацы слаўны
з Усходу прыходзяць,
Ладан і міру, ладан і міру
й золата прыносяць.
Хрыстос радзіўся і г. д.

Госпаду Богу, Госпаду Богу
дарункі складаюць.

Пастушкі людзям, пастушкі людзям
аб усім зьвяшчаюць.
Хрыстос радзіўся і г. д.

Народжанаму, Народжанаму
Богу паклон дайма.
Слава у вышніх, слава у вышніх
Яму засьпявайма.
Хрыстос радзіўся і г. д.

## *Ночка ціхая, зарыста*

Ночка ціхая, зарыста,
Цуд — часіна,
Парадзіла Дзева — чыста
Бога — Сына.

Па загаду Бога — Духа,
Праз зьяўленьне,
Ўсяму сьвету на пацеху,
на збаўленьне.

Парадзіла Дзева — Матка
У бядоце,
у паветцы, ў недастатку,
у хлапоце.

І над гэтым Божа Матка
Бедавала,
і калышучы Дзіцятка
так сьпявала:

Сьпі, мой міленькі Сыночак,
Збаўца сьвету,
выбачай, мой галубочак,
беднасьць гэту.

Няма чым Цябе, нябожа,
прыкрываці,
Твае ручанькі прыгожа
спавіваці.

Не пагардзіў Ты прыйсьці так
на сьвет гэты,

у сукеначку ў мяне Ты
не адзеты.

Толькі сенцам тут Цябе я
атуляю,
нявыгоды можа гэтым
больш спраўляю.

## *Нова радасьць*

Нова радасьць стала,
што шчэ ня бывала:
над Бэтлеей гвязда ясна
Сьвету зазіяла.

Дзе Хрыстос радзіўся,
з Дзевы ўцелавіўся —
як чалавек пялёнкамі
убога спавіўся.

Пастушкі з ягняткам
перад тым Дзіцяткам

упадаюць на калені
для Яго ўслаўленьня.

І мы тож сьпявайма
Хрыста праслаўляйма;
нараджонага з Марыі
пакорна ўпрашайма.

Просім Цябе, Божа,
просімо як можам:
дай нам ў небе жыцьцё шчасна,
на зямлі жыцьцё прыгожа.

## *Вечны родзіцца*

Вечны — родзіцца нам сёньня!
Спадар сусьвету — бяздомны!
Агонь — крэпне! Яснасьць — меркне!
Нескančатны — нам падобны!
Ўзгарджаны — акрыты славай!
Валадар вякоў — сьмяротны!

А Целам сталася Слова
І жыло жыцьцём гаротным!

Стаенка — Яго палацам!
Пастушкі — Яго сьвітою!
Мерзьне на сене ды плача
Разам з скацінкай худою!
Не ўзгардзіў сялянскім станам
І прыняў перад панамі!
О, Слова, што Целам стала,
Жыві вечна паміж намі!

І з Усходу каралі тры
Просяць гожа прыняць дары,
Кленчучы ды зьняўшы мітры
Прад сусьвету Валадарам —
Дзіцятка усё зьмяшала
З бедных пастушкоў дарамі —
О, Слова, што Целам стала,
Жыві вечна паміж намі!

Пашкадуй, Дзіцятка Божа,
Нашую зямельку мілу!
Адвярні ад нас бязбожжа,
Дай любові, веры сілу.
Дай надзею вытрывалу
З сьвятымі ўсімі дарамі!
О, Слова, што Целам стала,
Жыві вечна паміж намі!

## *Паказалась з неба яснасьць*

Паказалась з неба яснасьць нябывала,
грамада анёлаў песьню засьпявала:
„Хвала Богу на вышынах,
спакой людзям на нізінах“.
Слава, слава, слава на вышынях Богу!

Пастушкі на полі са страху памлелі,
як на гэны цуд у поўначы глядзелі;

Тады Анел ім зьявіўся,
сказаў: „Бог вам нарадзіўся“.
Слава, слава, слава на вышынях Богу!
Найсьвяцейша Дзева стала Маткай Бога,
што адкупіць людзкасьць з моцы духа
У стаенцы парадзіла, [злога.
і на сенца палажыла.
Слава, слава, слава на вышынях Богу!
І пабеглі дзеці з вялікай ахвотай,
гралі і сьпявалі Богу стройнай нотай;
Свае сэрцы радавалі,
што Ісуса аглядалі.
Слава, слава, слава на вышынях Богу!
І мы засьпявайма Сыну-Богу хвалу,
што для нас радзіўся і цярпеў нямала;
Выслаўляйма гожа Бога,
ў сьвятой Тройцы Адзінога.
Слава, слава, слава на вышынях Богу!

## *Ночка - цуд*

Ночка - цуд,
ноч прабуд
ад нядуг!
I наш дух,
ночка сьветлая калядна,
прабудзі ты сьветаўладнай
красою сваёй,
красою сваёй.

Ночка - цуд,
ноч прабуды
пастушкоў — бедакоў!
— Бог Збавіцеля спаслаў,
каб дарогу паказаў
к волі-долі ўсім,
к волі-долі ўсім...

Ночка - цуд,
ноч прабуд!
Беларусь
устаць прымусь
зо сну немачы бязбожжа!
Сьвяці ёй на раздарожжы
праўдай Божаю,
праўдай Божаю!...

Ноч жыцьця,
ноч прыйсьця
Дарагога
Сына-Бога!
Разам з Матанькай сьвятою
Ды анёлаў грамадою
Чэсьць Яму пяём,
Чэсьць Яму пяём!

## ВЯЛІКАПОСНЫЯ

### *Хрысьце Цару!*

Хрысьце Цару справядлівы,
як-жа вельмі Ты цярплівы,
(2) Цябе зьбіта скатавана
і бязьмерна наругана!

Ты маліўся ў сьвятаградзе,
памятаў аб чорнай здрадзе,
(2) Як вучанік бяздушны
прадасьць Цябе крывадушна.

На малітве зьнемагаўся,
пот крывавы выліваўся,
(2) Аднак прыняў шмат цярпеньня,
хацеў усім даць збаўленьне.

За каго цярпёў такія
мукі праведны Мэсыя?
(2) Хрысьце, працерпеўшы раны,
уміласэрдзься над намі.

## *Сьвяты крыжу*

Сьвяты крыжу, наймілейшы,
з усіх дрэваў найслаўнейшы!
ў гэтым дрэве моц і сіла:
яно Ісуса насіла;
з яго плыве асалода
для гаротнага народу.

Дрэва цьвёрдае, зьмякчыся,
аж да зямлі прыхіліся!
спусьці найсьвяцейша Цела
яно з болю ўжо самлела.
Пазволь яму адпачыці,
на зямлю скарэй сступіці.

Цябе выбраў Бог адвеку
на збаўленьне чалавеку;
з цябе ласка людзям дана,
Душа наша ўзмацавана,

крывёй Божай ўся абмыта,
што з Хрыстовых ран праліта.

Як ў халоднай ляжаў стайні,
для яго ня была тайна:
каб сьвет грэшны адкупіці,
тэба кроў сваю праліці,
там зьвяры паклон давалі,
а тут людзі катавалі.

Нячувана міласьць гэта,
каб ісьці на крыж для сьвета!
Хто-ж так будзе міласьцівы,
такі добры літасьцівы?
Сам Хрыстос Бог гэта справіў —
нас ад пекла крыжам збавіў.

Чаму тваё сэрца горда,
як-бы камень глуха-цьвёрда?
над Ісусам ты ня плачаш,

хоць Яго на Крыжы бачыш:
на ахвяру Богам даны,
за цябе укрыжаваны.

Матка з жалем паглядала
і той час успамінала:
як малога спавівала,
прытуляла цалавала:
а цяпер Ягона цела,
ад ран сіня, пачарнела.

Ня быў жаль такі й ня будзе,
гдзе жылі, жыць будуць людзі!
Які Матка смутак мела,
на Ісуса як глядзела:
сіратою астаюся,
гдзе цяпер я прытулюся?

Аднаго Сыночка знала,
яго з неба атрымела,

цяпер Яго забіраюць —
мяне бедну пакідаюць.
З жалю рвецца маё сэрца,
хоча выскачыць, здаецца.

Каб Ты быў, Сыночак, ніжай,
да мяне каб трохі бліжай —
я галоўку-бы падперла,
сьлёзы й кроў Тваю абцерла.
Але Крыж Твой так высокі —
ад мяне Сынок далёкі.

Ўзялі Сына, зорку ясну:
мяне кінулі няшчасну —
над усё Яго любіла,
цяпер мне жыцьцё няміла.
Ах мой, Божа! Табе веру —
ня карай-жа нас праз меру.

А хто Богу верна служыць,
Божу Матку шчыра любіць,

хай пад Крыжам стане з Ею,
ў ёй сваю кладзе надзею.
Праз Тваё, Дзева, цярпеньне
упрасі для нас збаўленьне.

## ВЯЛІКОДНЫЯ

### *Вялік сьвяты*

Вялік, сьвяты нам дзень настаў,
са славай з гробу зазіяў;
Хрыстос васкрос — нам вечны сьвет.
Хрыстос васкрос!

Як сам прад сьмерцю Ён сказаў,
на трэці дзень із мертвых ўстаў.
Ад радасьці ня трэба сьлёз.
Хрыстос васкрос!

Суботня поўнач як зайшла,

зара нядзелі чуць ўзыйшла,
як адчыніўся насьцеж гроб.
Хрыстос васкрос!

Жанчыны зраньня к гробу йшлі,
і міра цэннае нясьлі,
аж бачаць гроб, — там нехта ёсьць.
Хрыстос васкрос!

Ясны як сонца меў Ён від,
пасланьнік Божы быў да іх.
То сьветлы ангел быў з нябёс.
Хрыстос васкрос!

Жанчынам ангел той сказаў:
"Хрыстос ўваскрос, із мертвых ўстаў,
"Дарма шукаеце тут скрозь.
Хрыстос васкрос!

"Ідзеце дайце знаць аб том
"Усім яго вучанікам

"радасну ангельскую весьць
Хрыстос васкрос!

Ў царквох сьпявайце і ў дамох
жыцьцё нам ёсьць на небясох.
Ўсе весялецесь людзі скрозь.
Хрыстос васкрос!

## *Радуймася хрысьціяне*

Радуймася, хрысьціяне,
бо Хрыстова з гробу ўстаньне
даравала нам збаўленьне.
Хрыстос васкрос! (3)

Патрыярхі рады сталі,
што ў атхлынях прабывалі,
як Збаўцу свайго даждалі.
Хрыстос васкрос! (3)

І убачылі яснога,
ён адняў моц духа злога,

ім сказаўісьці да Бога.
Хрыстос васкрос! (3)

З гробу камень адваліўся,
Хрыстос з умёршых збудзіўся
і Марыям аб'явіўся.
Хрыстос васкрос! (3)

Апосталы сабраліся,
што былі ўжо разышліся,
па Хрысьце ўсе смуцячыся.
Хрыстос васкрос! (3)

Мы ўсе разам засьпявайма,
ускрашэньне размышляйма,
з граху ўстаць пастанаўляйма.
Хрыстос васкрос! (3)

Хрысьце, праз Тваё ўскрасеньне
дай нам грахоў адпушчэньне,
вечнае душам збаўленьне.
Хрыстос васкрос! (3)

# ПРЫНАГАДНЫЯ

## *О, мой Божа!*

О мой Божа! Веру Табе,
і ўсё веру я для Цябе,
ўсю надзею ў Табе маю,
за ўсе Цябе выхваляю.

Ты сатварыў, Ты адкупіў,
Ты нас Божа і асьвяціў;
за то Табе дзе ёсьць людзі
чэсьць і слава няхай будзе.

Табе Божа, кланяюся,
на Тваю волю здаюся,
а быць толькі хачу ў небе,
па ўсе векі славіць Цябе.

Жаль мне Божа, зграшыў Табе,
праз грэх дастаў пекла сабе;
ды ня так жаль згубы маей,
як жаль, Божа, крыўды Тваей!

Ах мой Божа, я каюся,
даруй віны папраўлюся;
ды ўжо сто раз памерць волю
на грэх болей не пазволю.

Для Твайго успадабаньня
Хачу спаўняць прыказаньні;
Жыць і ўміраць хачу ў Табе,
бо Ты добры Сам у Сабе.

О, Ісусе, Збавіцелю
Мілы наш Пацяшыцелю
да рук да ног Тваіх паўшы,
каемся за грахі нашы.

Цалуючы Твае раны,
о, Ісусе, наш каханы,

рукі й вочы к Табе ўзносім,
адпушчэньня грахоў просім.

Сьлёзы нашы выліваем,
шчырым сэрцам прыракаем:
пакуль будзем з людзьмі жыці,
ня будзем Богу грашыці.

О, Марыя, Матка Боска!
Ты сьвятая кветка райска!
Маліся Богу за намі
Нягоднымі грэшнікамі.

Ўсе сьвятыя ўзгляньце з неба!
Вашай ласкі нам патрэба;
малецеся вы за намі,
нягоднымі грэшнікамі.

Слава Богу праўдзіваму,
Слава ў Тройцы Адзінаму,
Слава Айцу, разам Сыну,
Слава і Духу Сьвятому.

## *О, Ты, прадвечны!*

О, Ты прадвечны, Валадару сьвету,
што зямлі, сонцу вызначаеш мэту,
аб Табе, Божа, як я люблю думаць,
ды хто ў сабе Ты - не магу судумаць.

Ці кіну позірк па зямлі кругом я,
дзе жамярынка снуе пад нагою,
ці у блакітну высь углыблю вока,
цябе шукаю блізка і далёка.

І хто-ж такі Ты? душа ўсьцяж пытае;
мусіш быць грозным, калі гром пушчаеш
мусіш быць добрым, калі стварыў неба,
даў любоў сэрцу, даў галодным хлеба...

Закрыты вочы мае граху ймглою,
не магу ўбачыць Цябе прад сабою,
о, каб убачыў хоць раз ў жыцьці гэтым -
гласіў - бы: хто Ты — перад усім
сьветам!

## *Уладару сьвету*

Ўладару сьвету, Божа ўсемагутны,
Ты, што дазволіў Айцом сябе зваці,
к Табе узносім голас наш пакутны: (2)
будзь ласкаў долю лепшую нам даці!

Прырок Ты надусё Табе адданым
помач спагадну бацькаўскай апекі,
дык хай-жа зваляцца граху кайданы (2),
і не гразяць нам загубай навекі!

А калі сьмерць нам загляне у вочы,
настане наша судная гадзіна,
прыймі к Сабе нас тады, добры Ойча, (2)
як бацька роднага прыймае сына!

## *О, Божа*

О, Божа, што нашую долю
крутымі шляхамі вядзеш —

няхай-жа мы знойдзем патолю,
як нас Ты на суд пазавеш.

І, як загрозіць нам кара
за сваяволю, за грэшны блуд,
хай зьменшыць сьвятая Ахвяра
страшэнны, страшєнны Твой прысуд!

## *Хрысьце, відзіш маё сэрца*

Хрысьце, відзіш маё сэрца,
маей тайніцу душы:
Табе жалюсь ў паняверцы,
мае сьлёзы асушы.

Выракаюся я грэху,
шчыра плачу за блуды,
прышлі-ж ўрэшцe мне пацеху,
за нядолю, за труды.

Даеш гора мне з патрэбы,
не забыў каб цноты я:
бо у шчасьці не здалеў-бы
паважаць красу жыцьця.

Але-ж крыж уеўся ў плечы,
ланцугі у рук, у ног:
ворагі паднялі мечы,
каб паўстаці я ня мог.

Хрысьпе-Божа, пасьля мукі,
меў-жа Ты трыумфу час:
разьвяжы-ж і нам ўжо рукі,
бо грахі зглумілі нас...

У дарозе да свабоды,
дай-жа нам сьвяты дар Твой:
багаслаў усе народы,
на збратаньне, на спакой.

## *Заўсёды, мой Божа...*

Заўсёды, мой Божа, дзіўлюся Табе я –
і ў ночы спакойнай, і ў зорках ясных –
і як стогне бура, як шуміць завея –
і ў блысках сонца, і ў маланках страш-
[ных.

Дзіўны Ты, о Божа, і ў траўцы польнай,
у кожнай расьціне, і ў красцы прыгожай
дзіўны ў тварэньні так стройнага сьвету
Ты даеш пагоду і прыгожасьць лету.

Я дзіўлюся Табе ў душы маей Божа –
дзе ўсенька закрыта для злоснага вока –
жыцьцё дзе асобна - а Ты яго, Божа,
гадуеш ласкава, таёмна, глыбока.

Найболей дзіўлюся Табе я, Прадвечны,
што Ты у натуры сваей бесканечны:
хоць усё загіне – сьвет пачнецца новы –
Ты вечнатрывалы – вечны Твае словы.

### *О, Божа, Спасе наш*

О Божа, Спасе наш,
Ты міласьць нам пакаж,
з няволі вызваль нас,
збудзі Ты нас ўжо раз.

Ты вочы нам адкрый
і сьвету нам пашлій —
Ты праўду нам пакаж,
о Божа, Спасе наш!

## ПЕСЬНІ Ў ЧЭСЬЦЬ МАРЫІ

### *Уладарка ласкі*

Ўладарка ласкі, болем пранята.
заступніца без граху пачата,
за нас маліся да свайго Сына,
каб дараваў нам нашы правіны!

З кожнай, о Матка, к Табе старонкі
дзетанькі жаль нясуць скаргі горкі —
ня ўзгардзь мальбою шчырай пакутнай,
адхілі кары просьбай магутнай!

К каму-ж бо, Матка, к каму мы пойдзем,
помач спагадну у каго знойдзем —
разьвяжы путы граху няволі,
прысьпяшы канец нашай нядолі!

Лекарка хворых, Матка любові,
похацяў грэшных аслаб аковы,
так бо нам цяжка з імі змагацца,
Цяжка самым цнатлівымі стацца.

Старожка веры, Мацарка Божа.
із Беларусі выжань бязбожжа,
Богу гасанна хай стройна громка,
сьпявае вольна, родна старонка!

Калі-ж апошня прыдзе часіна,
апошня з вока сплыве сьлязіна,
сваімі матчынымі рукамі
закрый нам вочы навекі. Аман.

## *Матачка Божая*

Матачка Божая, Матачка Добрая,
бедныя дзеці мы клічам Цябе;
песьняй пакорнаю мольбы складаючы,
Сэрцы свае аддаём мы Табе.

Нас сваіх дзетачак, што ў Цябе про-
Матачка Добрая, Ты пашкадуй; [сяцца
ласкай аджыўчаю Бога прадвечнага,
Матачка Божая нас абдаруй.

Вылеч Ты сэрца нам раны глыбокія,
Міласьцяй чыстаю нас запалі,
каб хвала Божая, не жальба вечная,
ў неба ляцела, ляцела з зямлі.

Сьветам нябесным-жа голавы цёмныя
Матачка Божая, Ты асьвяці,
каб мы пазналі ўсе Мудрасьць Адвеч-
Богу служылі тут вечна ў жыцьці [ную

Дай-жа нам дзетачкам, дарогу прос-
сьмерці хвіліну шчасьлівую дай, [тую,
вядзі нас, Матачка, зоранька ясная,
ў вечную хвалу, ў цудны Божы рай.

## *Чэсьць Марыі*

Ад зарніцы хай з зямліцы
ляціць слава Марыі,
кожна сьвята чэсьць багата
аж пад неба хай ўстае!

Табе гожа, Маці Божа,
славу душы хай пяюць.
Божу ласку, поўна бляску,
памажы нам асягнуць.

Між жанчынаў Ты адзіна
ласкі поўна у Бога,

кветка майска, зорка райска,
асьвячай нам дарогу!
    Табе гожа, Маці Божа...
Чыста Дзева, Каралева,
красой неба ачаруй
нашы дзеткі — зямлі кветкі —
нявіннасьцю абдаруй!
    Табе гожа, Маці Божа...

# РОЗНЫЯ

## *Мы хочам Бога*

Мы хочам Бога, Дзева Маці,
сваіх дзяцей паслухай зоў,
мы хочам Бога праслаўляці,
яму жыцьцё аддаць і кроў.
    Багаславі нас Маці,
    багаславі наш род —
    мы хочам Бога праслаўляці,
    ягоны верны мы народ.

Хай будзе Бог ў сямейным коле;
жыцьці бацькоў, дзіцячых снах;
хай будзе Ён у кніжцы, школе,
у адпачынку, ў працы днях.
Багаславі нас і г. д.

Мы хочам Бога ў шчасьці, горы,
загадах улады, кнігах праў;
на полі, горах і на моры
закон Ягоны каб настаў.
Багаславі нас і г. д.

Мы хочам Бога ў кожным стане,
яму пяе крывіцкі род:
работнік, селянін, мяшчане —
наш Беларускі ўвесь народ.
Багаславі нас і г. д.

Мы хочам Бога ў нашым краі,
між беларускіх бедных стрэх —

у нашай мове і звычаі
на можа меці месца грэх.
Багаславі нас і г. д.

Хай будзе Бог у нас заўсёды:
у час вясельля і сьлязах,
хвілінах бураў і няўзгоды,
жыцьці спакойным і ў трудах.
Багаславі нас і г. д.

Мы хочам Бога, Яго права;
Яго натхненьне — наш пачын;
усё жыцьцё — Ягона слава;
Яго загад — наш кожны чын.
Багаславі нас і г. д.

## *Песьня аб Боскай апецы*

Псальм 90

Хто толькі здасца на апеку Божу,
І думкі шчыра
ў Яго рукі зложа, (2)

Сьмела той скажа: маю сховы ў Бога,
знаці ня буду
нічога благога. (2)

Бо ўбараніў Ён мяне ад няволі,
у злой напасьці
ня згіну ніколі; (2)

У цяні схавае Сваіх крыльляў вечна,
пад яго вокам
будзеш спаць бясьпечна (2)

За плячом будзеш Яго нездабытым,
як за жалезным
акаваным шчытам, (2)

Будуць нястрашны трывога і стрэлы,
якія сее прыгода
ў дзень белы. (2)

Каля цябе шмат тысяч галоў ляжа,
страшную сілу
меч Божы пакажа (2)

Згуба напэўна: вачамі сваімі
помсту убачыш
над грэшнымі ўсімі (2)

Ты-ж меў надзею ў Найвышэйшым Троне
што Бог ласкавы
ўсягды абароне; (2)

Цябе ня чэпіць благая прыгода,
к табе ня зойдзе
ў тваю хату шкода (2)

Будуць цябе скрозь вартаваць анелі,
дзе толькі будзеш —
ў дарозе, ў пасьцелі... (2)

На руках будуць насіць, чалавеча,
каб дзе аб камень
ног не пакалечыў (2)

Будзеш таптаці нагою адкрытай
зьвяроў і зьмеяў
гадзін ядавітых (2)

На льве страшэнным сядзеш неўзнароку
і на жудасным
будзеш езьдзіць смоку. (2)

Чуй, што Бог кажа: хто Мяне мілуе,
і маё Імя хто
шчыра шануе, (2)

Я таго так-жа вечна не згбуду,
у горы ўсялякім
памагаці буду. (2)

Выслухаць голас Яго я гатовы,
зь ім я ў прыгодзе,
ў Мяне знойдзе сховы (2)

Хай пэўны будзе, пэўны уважэньня,
і лет старэйшых
і свайго збаўленьня. (2)

## *Сьпяшэм к Збавіцелю*

Сьпяшэм к Збавіцелю добраму,
сьлёзы і гора нясем Яму,
у Яго знойдзем утуленьне,
ласку і збаўленьне.
    Слухай Спасе, як моліць народ,
    як ён стогне пад крыжам турбот,
    горкую долю нашу зьмяні,
    да сэрца прыгарні!

Хай-жа адчуем бліскасьць Тваю
і змацнім душу збалелую,
дай сілу гора ператрываць,
будземо дзякаваць.
    Слухай Спасе, як . . .

Ад суму, гора, чорнай жуды,
пры Тваім аўтары заўсягды,

хай знойдзем лекі, Збавіцелю,
душы Цяшыцялю!
Слухай Спасе, як...

У пору сумніваў, перашкод,
не дапушчаймася зьнеахвот,
толькі Хрысту паручайма боль —
Ён Праваднік, Кароль.
Слухай Спасе, як...

Ісус тваім шчасьцем хоча быць,
ў небе навекі з табою жыць,
Яму аддайся з целам, з душой,
будзь з Ім, як Ён з табой!
Слухай Спасе, як...

## *Бедны той*

Бедны той, хто ня знаў Цябе ад роду,
ніколі ня славіў Твайго іменьня,

ды той бяднейшы, хто піў грэх як воду
й гардзіць спамогай Тваёй да збаўленьня.

І з душы выгнаў аб Табе спаміны,
і сваей Маткі подла адчураўся,
ах, ласка Божа ня згладзіць правіны
таму, хто з Маткай ласкі распрашчаўся.

Хто не услявіць Цябе словам, чынам,
за тым ня будзеш ў судзе заступацца:
хто гардзіць Маткай, той ганьбуе Сына,
той будзе вечна у цемры блукацца.

Хто жыцьця-долі з Табою ня зьвяжа,
твае апекі ў горы ня шукае,
той бяз Цябе і у гроб цёмны ляжа,
без Цябе вечна у procьме блукае.

Жаль горкі сёньня нясу Табе ў дані,
хай-жа ён вымаліць мне прабачэньне,

і перад грознай Судзьдзі-Сына казьняй
няхай заслоніць Маткі утуленьнс.

А каго, Матанька, ў жыцьці вясьцімеш,
той даплыве да шчасьлівае мэты,
для каго сэрца Судзьдзі, Ты, адчыніш,
таго чакаюць ясныя засьветы.

## *Песьня пры працы*

Міласэрны, вечны Божа,
Цябе просім колькі можам
ты зьвярні ласкавы вочы
на Твой бедны люд рабочы.

Дай нам сілы да змаганьня;
хай шчасьлівы кожны стане,
адвярні ад нас прыгоды,
ухавай ад кожнай шкоды.

Дай нам моцну ў Цябе веру,
у жаданьнях дай знаць меру,
ураджай нам дай на полі,
збаў нас, Божа, ад нядолі.

Не пакінь-жа нас на векі,
Божа, без Твае апекі;
выбачай нам нашу слабасьцць,
і згатуй нябесну радасьцць.

Цябе, Ойча, наш Стварыцель,
Сыне-Божа Адкупіцель,
Духу Пацяшыцель, Божа,
выслаўляем, колькі можам.

## *Беларускі рэлігійны гымн*

Божа, што калісь народы
на асобкі падзяліў
і хацеў, каб народ кожны
мовай роднай гаварыў.

Ўзглянь-жа на народ бяздольны
Беларускі, што к Табе
голас ціхі, паднявольны,
у пакорнай шле мальбе.

Асьвяці наш розум верай,
і надзею ў душу ўлі,
ды агонь любові шчырай
ў сэрцах нашых запалі!
Дай, каб зернятка прабуды
заляцела ў кожны кут
Беларусі, каб усюды
узыйшло і там і тут.

Каб рунела, выплывала,
красавала, наліло
і, насьпеўшы, ў ток ня мала
умалоту прынясло.
Памажы-ж нам, Божа мілы,

прабудзіцца да жыцьця,
удзялі парады, сілы,
каб ня зьбіліся з пуцьця.

Дык жыві-ж Ты і красуйся,
наша Маці, Беларусь,
да краёў чужых раўнуйся,
йсьці дзяцей к сабе прымусь.
Хай бяруцца да работы,
дом народны будаваць,
і багацяцца у цноты,
каб пасьля ім рай дастаць.

# ВЯЛІКДЗЕНЬ

| Гады | Усходні | | Лацінскі | Розьніца ў тыднях |
|---|---|---|---|---|
| | стары стыль | новы стыль | | |
| 1946 | 18. IV | 21. IV | 21. IV | — |
| 1947 | 31. III | 13. IV | 6. IV | 1 |
| 1948 | 22. IV | 21. V | 28. III | 5 |
| 1949 | 11. IV | 24. IV | 17. IV | 1 |
| 1950 | 27. III | 9. IV | 9. IV | — |
| 1951 | 16. IV | 29. IV | 25. III | 5 |
| 1952 | 7. IV | 20. IV | 13. IV | 1 |
| 1953 | 23. III | 5. IV | 5. IV | — |
| 1954 | 12. IV | 25. IV | 18. IV | 1 |
| 1955 | 4. IV | 17. IV | 10. IV | 1 |
| 1956 | 23. IV | 6. V | 1. IV | 5 |
| 1957 | 8. IV | 21. IV | 21. IV | — |
| 1958 | 31. III | 13. IV | 6. IV | 1 |
| 1959 | 20. IV | 3. V | 29. III | 5 |
| 1960 | 4. IV | 17. IV | 17. IV | — |
| 1961 | 27. III | 9. IV | 2. IV | 1 |
| 1962 | 16. IV | 29. IV | 22. IV | 1 |
| 1963 | 1. IV | 14. IV | 14. IV | — |
| 1964 | 20. IV | 3. V | 29. III | 5 |
| 1965 | 12. IV | 25. IV | 18. IV | 1 |
| 1966 | 28. III | 10. IV | 10. IV | — |

# КАЛЯНДАР

## важнейшых нярухомых сьвятаў

| | |
|---|---|
| 1-I. | Новы Год |
| 6-I. | Вадохрышча — Эпіфанія |
| 30-I. | Трох Сьвяціцеляў |
| 2-II. | Грамніцы |
| 25-III. | Багавешчаньне |
| 23-IV. | сьв. Юр'я |
| 9-V. | сьв. Міколы |
| 23-V. | сьв. Еўфрасініі Полацкае |
| 24-VI. | Нарадж. Івана Хрысьціцеля (Купала) |
| 29-VI. | сьв. ап. Пятра і Паўла |
| 5-VII. | сьв. Кірыла і Мяфода |
| 20-VII. | сьв. пр. Ільлі |
| 24-VII. | сьв. Барыса і Глеба |

25-VII. сьв. Ганны

6-VIII. Спаса — Пераабражэньне Г. Н. І. Хр.

15-VIII. Усьпеньне Прачыстае Дз. М.

29-VIII. Галавасячэньне сьв. Івана Хрыс.

8-IX. Нараджэньне Прач. Дз. Марыі-Багатнік

14-IX. Узьдзвіжаньне Крыжа Гас.

1-X. Пакровы

26-X. сьв. Зьмітра

8-XI. сьв. арх. Міхаіла

21-XI. Увядзеньне ў храм Дз. Мар.

30-XI. сьв. ап. Андрэя

6-XII. сьв. Міколы

9-XII. Неп. зачацьце Дз. Марыі

25-XII. НАРАДЖЭНЬНЕ ІС. ХР.

26-XII. Сабор Багародзіцы

27-XII. сьв. Сьцяпана

# ЗЬМЕСТ

Слова пра малітву . . . 4
Штодзенныя малітвы . . . . 6-7
Псалом 50 . . . . . 12-13
Сымбаль веры . . . . 18-19
Малітвы да Прач. Дзевы Марыі 22
Вынятні з катэхізму . . . 28
Значэньне добрых учынкаў . . 37

## Прынагодныя малітвы

Раняшняя малітва . . . . . 42
Малітва перад сном . . . 42
Перад пачаткам усякага дзела . 43
Кончыўшы усякае дзела . . 44
Малітва моладзі . . . . 44
Малітва перад навукаю . . 46

Малітва пасьля навукі . . . 46
Малітва перад ядолю . . . 47
Малітва пасьля яды . . : 47
Малітва да Хрыста Госпада . . 48
Прырачэньне вернасьці Ісусу Хрысту . . . . . . 51
Малітва да Багародзіцы . . 52
Паручэньне сябе ў апеку Прач. Дзеве . . . . . . 54
Малітва за Беларускі Народ . 55
Малітва за пагінуўшых на вайне 61
Малітва за бацькоў і родных . 63
Малітва за памёршых . . . 67
Малітва аб багаславенстве . . 68
Малітва сіраты . . . . . 70
Малітва ў няшчасьці . . . 71
Малітва на ўсякую патрэбу . 74
Малітва за ўсіх і за ўсё . . 75

Мэта нашага жыцьця . . . . 78
Аб Царкве . . . . . . . 81
Прыметы Хрыстовае Царквы . 82
Паясьненьне сьв. Тайнаў: Хрост . 86
Мірапамазаньне . . . . . 88
Споведзь . . . . . . 89
Рахунак сумленьня . . . . 92
Жаль за грахі . . . . . 98
Найсьвяцейшая Эўхарыстыя . 100
Малітва перад прычасьцем . . 104
Малітва пасьля Прычасьця . . 106
Алеепамазаньне . . . . . 107
Сьвятарства . . . . . . 111
Малітва за добрах сьвятароў . 114
Жанімства . . . . . . 116
Малітва дзіцяці . . . . 119

## ЦАРКОЎНЫЯ ПЕСЬНІ

### Калядныя:

Неба і зямля . . . . . 123
Ночка ціхая, зарыста . . . 125
Нова радасьць . . . . . 127
Вечны родзіщца . . . . . 128
Паказалась з неба . . . . 130
Ночка цуд . . . . . . 132

### Вялікапосныя:

Хрысьце Цару . . . . . 134
Сьвяты крыжу . . . . . 135

### Вялікодныя:

Вялік сьвяты . . . . . 139
Радуймася хрысьціяне . . . 141

## Прынагдныя :

О, мой Божа , . . . . 143
О, Ты, прадвечны . . . . 146
Уладару сьвету . . . . . 147
О, Божа . . . . . . . 147
Хрысьце, відзіш маё сэрца . . 148
Заўсёды, мой Божа . . . . 150
О, Божа, Спасе наш . . . . 151

## У чэсьць Марыі :

Уладарка ласкі . . . . . 151
Матачка Божая . . . . . 153
Чэсьць Марыі . . . . . 154

## Розныя :

Мы хочам Бога . . . . . 155
Песьня аб Боскай апецы . . 158
Сьпяшэм к Збавіцелю . . . 161

Бедны той . . . . . . 162
Песьня пры працы . . . . 164
Беларускі рэлігійны гымн . . 165
Вялікодная табліца . . . . 168
Каляндар важнейшых нярўхомых сьвятаў . . . . . 169
Зьмест . . . . . . . 171